
Майстра Кастусь→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Апошняе валоканне→4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3027) Год LIX | Беласток, 18 мая 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Вароты адкрываныя з Бруселя

Інтэрв'ю з Мікалаем Мантурам, сямятыцкім старастам, кандыдатам у Еўрапейскі парламент.

**«Ніва»: — Выбіраецеся ў Брусель за мноствам жыхароў Сямятыцкага павета?**

Мікалай Мантур: — *(Смех).* Збольшага, так. Ні для каго не сакрэт, што некалькі тысяч жыхароў нашага павета там жыве. Не толькі ў Бруселі, але і ва ўсёй Бельгіі. Калі я стану еўрадэпутатам, маім намерам будзе служыць ім як найлепшым чынам, як гэта будзе магчыма. Лепш за ўсё было б, каб адкрыць парламенцкае прадстаўніцтва ў Бруселі, якое будзе падтрымліваць прабываючых там грамадзян Польшчы, якія часта маюць праблемы пакуль навядуць парадак у сваіх справах, знойдуць працу, жыллё. Гэта было б карысна не толькі для прабываючых там жыхароў Сямятыччыны і суседніх паветаў: Гайнаўскага або Бельскага і іншых, таму што, як ведаем, з Падляшша шмат польскіх грамадзян ездзіць у Бельгію.

**— Ну вось, чаму яны выязджаюць?**

— Я думаю, што ў асноўным гэта ўжо свайго роду традыцыя. Мае сябры з'язджалі адсюль у Брусель ужо больш за трыццаць гадоў таму. Цяжка мне сказаць, які гэтага генезіс, якая прычына паездак. Зараз фактычна няма сям'і ў Сямятыцкім павеце, якая не мела б кагосьці ў Бельгіі. Калі не мае, дык хутка будзе кагосьці там мець. Калі некаму з сям'і там удалося, яго следам збіраецца ў асноўным хтосьці з бліжэйшай ці далейшай сям'і, спрабуючы знайсці там месца для жыцця, што неабавязкова пераводзіцца на сталоўчы ўплыў на развіццё нашага рэгіёна. Зароблены імі грошы ў невялікай ступені пераводзяцца ў нас на засноўванне новых прадпрыемстваў, а хутчэй ідуць на будаванне дамоў, большасць з якіх, дарэчы, пустуе. Я лічу, што гэтая тэндэнцыя павінна быць звернутая назад. Па-першае, трэба дапамагчы людзям там пражываючым, а па-другое, стварыць, магчыма, у рамках еўрасаюзнай падтрымкі, магчымасці для інвеставання гэтых сродкаў тут, у нашым раёне, якраз з удзелам грошай ЕС. Новая фінансавая перспектыва ЕС 2014-2020 стварае сур'ёзныя падставы гэтаму, так як гэтыя меры ў пераважнай большасці прызначаныя для камерцыйных і асабістых бенефіцыянтаў, чым як дасюль для мясцовых самаўрадаў. Я думаю, што ў супрацоўніцтве з самаўрадам ваяводства ўдасца стварыць такія запісы ў Рэгіянальнай аперацыйнай праграме, якія б давалі такія магчымасці.

**— А ці гэта не ёсць так, што людзі з'язджаюць таму, што Сямятыцкі павет непрывабны? Вы самі, як самаўрадаўцы, пісалі ў стратэгіі развіцця павета на бліжэйшыя гады, што хочаце павысіць яго прывабнасць.**

— Мы прынялі нават дзеянні з мэтай стварэння ў непасрэднай блізкасці ад Сямятыч падзоны Сувальскай спецыяльнай эканамічнай зоны. Я адбыў нядаўна сустрэчу з дырэктарамі Польскай групы па энергетыцы ў справе забеспячэння гэтага месца ў электраэнергію і Мазавецкай газавай кампаніі, якая падтрымлівае наш горад у пастаўках газу. У пачатку чэрвеня будзем падаваць запыт міністру эканомікі, у якім мы будзем прасіць адабрэння стварэння падзоны ў Чартаеве непадалёк Сямятыч. Там выдзеленая асобная зона плошчай у дванаццаць гектараў з адпаведнай пазіцыяй у планах прасторавага кіравання гміны, што дазваляе інвестыцыі ў вельмі шырокім дыяпазоне дзейнасці.


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**— Але з пункту гледжання звычайнага, сярэднестатыстычнага жыхара, нашто Вам падзона і яшчэ Сямятыцкі прамыслова-тэхналагічны парк?**

— Гэта ў асноўным абазначае, што з'явяцца новыя працоўныя месцы. Узровень беспрацоўя ў нашым павеце не з'яўляецца высокім. Зямшчаемся на трэцім, другім, іншы раз на першым месцы з пункту гледжання нізкага ўзроўню беспрацоўя. Тым не менш, у некаторых прафесійных групах, у прыватнасці я маю на ўвазе маладых людзей, праблема знайсці працу відавочная. Вядома, зона і парк маюць служыць таму, каб новыя працоўныя месцы ўзніклі. Гэта з'яўляецца асновай, каб нашы жыхары не выязджалі не толькі ў Бельгію, але і ў Варшаву, Беласток ці Люблін. Праца гэта аснова.

**— А як маецца стварэнне эканамічнай зоны і тэхнапарка да аднаго з прыярытэтаў Вашай новай стратэгіі, то-бок, стаўкі на гэтак званую зялёную эканоміку?**

— Тут няма ніякай супярэчнасці. Наш павет мае плошчу большую, чым зона і парк у вельмі прывабным месцы, і з непаўторнай прыроднай прыгажосцю. Я маю на ўвазе тэрыторыю Буга, значыць, гміны Мельнік, Драгічын, Перлеева, сельскую гміну Сямятычы. Гэта тэрыторыя з высокімі шанцамі, калі гаворка ідзе аб магчымасці развіцця з пункту гледжання інфраструктуры турызму і адпачынку. На жаль, на дадзены момант у гэтай галіне шмат працы. Узнікла некалькі гасцінічных комплексаў на высокім узроўні. Я перакананы, аднак, што пакуль не будзе поўнай інфраструктуры, якая будзе стымуляваць патэнцыйных наведвальнікаў ці агульна асобы прыязджаючыя ў выхадныя, гэтыя гатэлі будуць толькі нязначна запоўненыя гасцямі. Я маю на ўвазе інфраструктуру такую як палі для гольфа, скарыстанне магчымасцямі Буга, то-бок, памяшканні для вудзільшчыкаў, катанне на байдарках, катанне на конях, спартыўныя збудаванні. Гэта ўсё наперадзе. Пакуль гэтая інфраструктура

працяг ☞5







# Пра Эльзас і нас

У правінцыі Эльзас, што ў Францыі, пачынаецца доўгатэрміновая праграма па ратаванні рэдкага віду — так званага вялікага эльзаскага хамяка. Гэта адзінае месца, дзе захавалася нешматлікая папуляцыя гэтага рэдкага звярка-грызуна. Бюджэт ратавальнага праекта складае — не многа не мала — 3 мільёны еўра. Гэтых хамячкоў, якіх называюць яшчэ страсбургскімі суркамі, зараз усяго толькі 160. Ахоўваюць іх з 1993 года, ды ўсё пакуль марна. Вы спытаеце, пры чым тут мы да гэтых маленькіх істот? Мы, беларусы, канешне, не нейкія эльзаскія суркі, яшчэ неяк размнажаемся. І папуляцыя наша куды шырэй — водзімся і выжываем не толькі ў РБ, але і на сумежных тэрыторыях, і на сусветных прасторах — ад Таронта да Іркуцка. І колькасна нас, носьбітаў беларускай мовы і культуры, паболей — напэўна не 160, а 160 тысяч, а можа і пад пяцьсот. Але праблема захавання і нас, як нацыі, надзвычай вострая. І пад ахову „палітычных эколагаў” трэба было нас браць прыблізна з таго часу — з 1994 года. Толькі ў свеце няма літасці — як некалі казаў мудры Сакрат Яновіч.

Аб’яднанай Еўропе, якая дэкларуе прынцыпы дэмакратыі, цэлы час не да нас. І, прыкладам, той жа Францыі, канешне, не да беларусаў. Хоць мы ім маглі б выставіць прэтэнзіі — і за даўнія рабаванні Напалеона дзвесце гадоў таму, а яшчэ больш за яго пустыя абяцанкі дапамагчы нам вярнуць дзяржаўнасць. І за іхнага нядаўняга прэзідэнта Ширака, які адным з першых у Еўропе прадаў Беларусь і стаў на шлях „рэал-палітык”.

І грошай беларусам на адраджэнне сваёй мовы ці культуры ніхто не дасць. Дарэмна стукаюцца ў розныя фонды грамадскія арганізацыі ці ініцыятывы. Вось цэлае Каралеўства Нідэрландаў, дзяржава з багатымі і вартымі перайманння культурнымі і гаспадарчымі традыцыямі, сёння адкрыта дэкларуе прыярытэт сваёй дапамогі так званай ЛГБТ-супольнасці. Калі вы не гей і не трансвестыт, то няма чаго нават сунуцца са сваёй беларускай сярмяжнай праўдай, са сваёй мовай і культурай. Зусім іншыя цяпер у Еўропе каштоўнасці і арыенціры. А можа яны і гэтым суркам-хамякам так памагаюць — каб не размнажаліся. Таму і прападаюць звяркі...

Але прэтэнзіі найперш трэба выстаўляць сабе. Як той казаў, ратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў. Ды дзіўная ў нас нацыя — не хоча ратавацца. Страчаны ўсе разуменні і вартасці. Яе нішчаць — а яна радуецца. Вось і 9 мая ўжо традыцыйна пераўтвараецца не ў дзень памяці і ўшанавання мільёнаў загінуўшых у Другой сусветнай вайне, а ў „скокі на касцях”. З адпаведным культам танкаў, гармат, ушанаваннем савецкіх палкаводцаў, энкавэдыстаў і ўжо іх дзяцей і, канешне, з татальнай мілітарысцкай рыторыкай. „Вялікая перамога, маўляў, у Вялікай айчыннай”. Кожны трэці беларус загінуў — асноўны прадмет гонару. Толькі і думаць не хочуць, што яшчэ цэлых восем гадоў пасля вясны 1945 года далей мучылі і нішчылі няві́нных людзей, аж пакуль вусаты генералісімус не адкінуў капыты і не адправіўся ў пекла. Што ў час гэтай страшнай вайны забілі не толькі кожнага трэцяга насельніка Беларусі, а яшчэ тысячы людзей былі змушаны выязджаць на Захад, ратуючыся ад карнай сталінскай сістэмы пасля заканчэння вайны. Што цягам гэтай сусветнай катастрофы наша айчына страціла Беласточчыну, Віленшчыну, іншыя землі — вялізны кавалак сваёй этнічнай тэрыторыі. То пра якую тут „вялікую перамогу” можна гаварыць?! Такія даты трэба адзначаць не салютамі і дзікімі п’янкамі-гулянкамі, а малітвамі ў храмах і ціхім ускладаннем кветак і вянкоў да помнікаў загінуўшым. Ды не туды тое — у савецкіх свае традыцыі. З „вечным агнём” нянавісці і дымам смажаных шашлыкоў на пляцах і ў парках. У беларусаў жа свая праўда вайны — тая праўда, пра якую пісаў наш вялікі пісьменнік Васіль Быкаў.

Ранейшаму пакаленню беларусаў абяцалі сацыялістычны рай. Новаму пакаленню прапанаваны „могучий и гремучий русский язык”, доўгі расійскі рубель, мірны расійскі атам, адзіная мытная прастора з Казахстанам і іншыя „прелести” чарговай саюзнай дзяржавы.

А цікава, ці захаваюцца ўсё ж у прыродзе эльзаскія суркі?..

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Усё з-за газонакасілкі



Асфальтавая шаша — цуд цывілізацыі. Я ішоў такім шляхам у Нарву. Міналі мяне разагнаныя аўтамабілі, на здзіўленне, некаторыя з іх прыпыняліся і прапанавалі пад’ехаць з імі. Мілы гэта і бясцэнны жэст у час напышлівай спешкі і бяздушнасці! Я, аднак, не ішоў для чагосьці, кудысьці, кіравала мною толькі задавальненне ад бязмэтнай хады з прыемным сабачкам. Без гадзінніка на руцэ. Без павадка для сабачкі. Без заклікаў і намоў. Вось чаму я адмаўляў ветлівым кіроўцам. Яны пакідалі мяне, пацісnуўшы плячыма. Я бачыў слаўшыся за імі след ад раз’езханых вужак, слімакоў, рапух, жаб... Тут адразу я патлумачу, што я ў гэтым нікога не вінавачу, але, прайшоўшы прыкладна тры кіламетры, налічыў 65 трупкоў звычайных вужоў-«заскроньцаў». Кончылася мая асалода ад прагулкі. Я вярнуўся дахаты і замкнуўся ў ёй наглуха. Вядома, разам з сабачкам, моцна разгубленым такім паваротам падзей. Ну, а як я меў растлумачыць яму чаму?

У выпадку звычайных вужоў, вядома, сонечны асфальт для гэтых халаднакроўных рэптылій як жыццёвы акумулятар. На жаль, часта смяротны. Але не для таго чалавек стварыў аўтамабіль, каб адмаўляць сабе зручна рухацца з месца на месца. Ключавым словам тут з’яўляецца «зручнасць», выгада. Таму што сама Цывілізацыя не мае нічога агульнага з Прыродай. Гэтак жа, як Прырода не мае ніякага дачынення да Цывілізацыі. Абедзве гэтыя якасці не з’яўляюцца антаганістычнай адна да адной. Толькі асноўным рухавіком чалавечай цывілізацыі з’яўляецца пастаяннае пашырэнне сваёй выгады. Часцей за ўсё за кошт не такой нямоглай Прыроды. Яе апакаліптычную помсту не прыйдзецца доўга чакаць. Гібель, аднолькава бязмэтная як мая нядаўняя прагулка ўздоўж асфальтавай дарогі, упісана ў Цывілізацыю.

Яе сімптомы магчыма ўжо заўважыць у маім садку. З таго часу, калі я пачаў касіць газоны, збеглі з яго прыхатнія, каб не сказаць акультураныя вужы; у большасці звычайныя. Але тут засідзелі красуні мядзянкі, і некалькі разоў прашмыгнула паміж камянямі забытага каменнага агародчыка змяя — зараз вялікая рэдкасць. Мабыць, усе яны выдатна праводзілі час у натуральным раскудлачанні майго агарода, сярод высокай травы, узнятых дуднікаў і дзікай мяты. Я не мяшаў ім у жыцці, таму што і яны мне не мяшалі. Хаця раз я мусіў быў выселіць з кухні вужыху Каластыну, якая ўлезла ў яе праз адчыненыя дзверы і салодка ўздрамнула пасярэдзіне сонечнай плямы на падлозе. Я вынес яе на двор, схапіўшы рукой за вялую галоўку. Прызнаю, аднак, што смярдзючая слізь, якою адразу пакрылася яе скура, да сённяшняга дня не выветрылася з маёй памяці. Ну, што ж, кожны бароніцца, як умее. Абы жучок прытвараецца мёртвым, слімак працягвае рожкі, выкрыты і спалоханы звычайны вуж адпуджвае інтэнсіўным пахам падлы. Ну, было, мінула... Каластына і так заслужыла павагі. Была такой ужэнай, што ні мыш не праслізнулася ў хату! І кожны год, на працягу некалькіх гадоў запар, вымошчвала сабе яна расплоднае гняздо пад спарахнелым парогам дзвярэй, што вядуць у вонкавыя сенцы. У красавіку-траўні выпаўзалі з-пад іх мініяцюрныя вужаняты крыху большыя за паказальны палец. А як мне было весела, глядзячы на твары маіх вялікагарадскіх гасцей, калі з-пад дзіравага як швейцарскі сыр парога высоўваліся вужыныя галоўкі. Хто перамог свой страх, не мог адарвацца ад іх вачэй. Седзячы на садовых крэслах, глядзелі мы на іх на працягу некалькіх гадзін; гаманілі, курылі цыгаркі, папівалі піва, і ўсё часцей разумелі важнасць сяброўства. І раптам усё пайшло да чорта. Распаўзліся кудысьці вужы, нават Каластына падзякавала за гасціннасць. А так яна любіла ляжаць на разагрэтых сонцам жорнах, якія я расклаў у сцежку на больш сонечным боку дома! Усё менш і менш сяброў наведвае мяне таксама, хоць узамен яны пасылаюць мне паштоўкі са сваіх экзатычных падарожжаў. І ўсё гэта з-за газонакасілкі. Я купіў яе таму, што суседзі таксама купілі. Кашу ёю мураву, таму што яны косяць яе кожную пятніцу. Як гэта ў іх, так і ў мяне павінна быць. Трэба ж жыць так як іншыя людзі. З людзьмі. Не супраць іх, а з імі. Нават калі яны ідуць на гібель — дык і я з імі. Няма іншай дарогі. Толькі тая асфальтавая, з нікуль — у нікуды.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Адышоў Багдан Скарадзінскі

4 траўня на 73 годзе жыцця адышоў Багдан Скарадзінскі (псеўданім Казімеж Падляскі), народжаны ў Асаўцы над Бебжай. Журналіст, пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1950-я гады рэпрэсаваны і заключаны ў турму ўладамі Народнай Польшчы. На працягу многіх гадоў рэдактар штомесячніка „Więź”. Пасля 1989 года рэдактар дадатка да штотыднёвіка «Tygodnik Białostocki» — «Sprawy Pobratymcze”. Займаўся аднасінамі палякаў з суседзямі на Усходзе. Яго кніга (Казімежа Падляскага), неафіцыйна выдадзеная ва ўмовах ваеннага становішча «Bracia nasi? Rzecz o Białorusinach Litwinach i Ukraińcach» трапіла ўжо ў спіс кніг неабходных для прачытання. Аўтар атрымаў за яе м.інш. Культурную прэмію «Салідарнасці». Яна перавыдавалася некалькі разоў, у тым ліку ў Беластоку неіснуючым ужо выдавецтвам «Versus». Багдан Скарадзінскі пісаў у ёй тады: «Літоўцы, беларусы, украінцы ... Кожны дзень іх не відаць сярод нас. Нічога пра іх не чуваць. Агульны вопыт здаецца пацвярджаць запэўніванні, што праблемы суіснавання розных народаў у Польшчы назаўжды зніклі разам з кашмарам урада санацыі, толькі зрэдчас выяўляюцца асобныя факты. У рэгіёне, напрыклад, Белавежы, калі трохі з’ехаць з цвёрдага шляху, лёгка гаворыца, што «палякі» ў вёсках гавораць яўна не па-польску, а зачэпленыя на нашай мове, часам, бывае, робяць уражанне, што яе не ведаюць і не хочуць ведаць».

Звяртаў увагу: «Калі зламаўся ялцінскі «парадак» у Еўропе, трэба было пачаць думаць аб новым для нас ладзе. Спачатку ад Усходу: там здаваліся тырчаць найбольшыя загадкі новай будучыні, тут таксама маглі існаваць найбольшыя шанцы, што гэтая будучыня не прынясе нам вялікіх турбот. Таму неабходна было паспрабаваць абнавіць нашу гістарычную памяць. Па-першае, усвомніць свае ўласныя памылкі на Усходзе, каб іх, магчыма, не паўтараць. Як трапна выказаў адзін з Радзівілаў на прыкладзе казацкага пытання: «вялікія злачынствы тут выпрабавалі палякі, бо ж і вялікія ў гэтым выпадку былі нашы памылкі і віны ...».

Як напісаў адзін з рэцэнзентаў гэтай кнігі, «аўтар сочыць у ёй з запалам за мінулым і сённяшнім лёсам нашых усходніх суседзяў, часам трагічна пераплеценым з польскім лёсам. Кніга вучыць, як з горкіх урокаў гісторыі даставаць імпульсы на мужнае мысленне пра задачы на сёння і заўтра, каб не прапусціць гістарычнай магчымасці для прымірэння, збліжэння і плённага супрацоўніцтва з нашымі пабрацімамі і суседзямі на Усходзе».

Гісторык і публіцыст Тамаш Шчапанскі ў артыкуле пра спецыялізацыю апазіцыі ў Польшчы ва ўсходніх і нацыянальных праблемах у 1981-1989 гады ўспамінаў: «Аўтар быў чалавекам палітычна незалежным, яго голас цяжка аднесці да нейкай апазіцыйнай аптацыі — па-за агульна каталіцка-салідарніцкай. Арыентацыя ўсходняй палітыкі нагадвае пілсудчыкаўскую, але аўтар не быў актывістам ніякай арганізацыі гэтага кірунку. Па-другое, з’яўленне гэтай кнігі запусціла ўнутры апазіцыйных эліт сур’ёзную дыскусію аб польскай усходняй палітыцы і этнічных праблемах. Кніга мела набліізіць палякам увогуле справу існавання беларускага, літоўскага і ўкраінскага народаў у якасці незалежных палітычных утварэнняў».

Тым не менш, аўтар надаў вялікую ўвагу меншасцям (беларускай, літоўскай і ўкраінскай) у Польшчы, спрабуючы вызначыць іх колькасць, прадстаўляючы культурнае жыццё і абмяркоўваючы палітычныя пазіцыі, асабліва стаўленне да ПАРП і апазіцыі. Матывы закрануць тэму меншасцей у Польшчы аўтар патлумачыў ва ўступным раздзеле: «Гэтыя супольнасці з’яўляюцца толькі прадстаўнікамі значна больш шматлікіх нацый. Яны з’яўляюцца выпрабавальным каменем. Ёсць у іх цэлы шэраг фізічных і эмацыйных сувязей як на Усход, так і на Захад, аж да Злучаных Штатаў і Канады, якія для іх з’яўляюцца таксама зямлёй дыяспары». Аўтар бачыў у гэтых народах натуральнага саюзніка Польшчы ў барацьбе супраць камуністычнага і маскоўскага імперыялізму.

Багдан Скарадзінскі прымаў жывы ўдзел у публічных дыскусіях з нашымі беларускімі гісторыкамі, з Югенам Міраноўічам ці Алегам Латышонкам. Не будзе хапаць яго голасу ў ходзе наступных дыскусій, яго пункту погляду на Усход. На працягу доўгага часу я намервайся ўзяць інтэрв’ю ў спадара Багдана для «Нівы». Неяк так далекавата мне было з Беластока ў Падкову-Лясною, дзе ён жыў. Не паспеў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Майстра Кастусь

Новае Ляўкова. Завейка. Кастусь Целушэцкі ў вушанцы коціць пад шопку тачку, каб набраць з дакладна складзеных штабеляў дроў у печку. Пад'язджае пад вялікі трохпавярховы дом, што на разгалінаванні дарог у Нараўку і Бандары. Дом са славутых стараляўкоўскіх цаглін — на ўсю ваколіцу! Шматпакаленневая хата. Побач стаіць старадаўняя бацькоўская хатка, адзначаная ў конкурсе на найлепш захаваны помнік драўлянай архітэктуры на Падляшшы, у якой жыве Кастусёў брат-солтыс. Абодва яны пішуць. Янка Целушэцкі — яшчэ ад пачатковай школы, а Кастусь — нядаўна, як толькі пачаўся той асаблівы паэтычны зрух у Нараўчанскай гміне...



Кастусь Целушэцкі з жонкай Марысяй

— Казалі ў народзе: „Так будзе, што зіма з зімой злучыцца", але я кажу, што хіба „лета з летам". Столькі тыдняў зімы — каб не было снегу?... Ну, цяпэрка едзем! — кранае тачку заснежаны гаспадар.

Абтуптваемся ля ўвахода ў бацькоўскую частку дома.

— Вось такую хатку паставілі. Тады і не вельмі было за што, не то што цяпер...

У вершах, што Кастусь піша — пра ўсё, пра ваколіцу, даўніну, ягоныя захапленні. Вось пра тую рыбу, што на здымку. Колькі тая рыба мае — шэсць кіло! Такая здабыча! Каля стала завіхаецца жонка Марыся. І яна хоча пахваліцца — трое дзяцей маюць, чатырох унукаў: тры ўнучкі і ўнука. Найстрэйшаму ў чэрвені будзе ўжо 22 гады! Гэта з ім дзед Кастусь на рыбу ездзіць. І для меншых дзяцей дзед Кастусь піша. Дарэчы, першы надрукаваны ягоны верш быў у „Зорцы" — пра яблыньку і дзеда, які можа і не спадзеецца з'есці з яе плады. Уся вёска цешылася такой неспадзеўкай — сусед свой верш надрукаваў! А бывала і так, што вершы з ваколіцы сыпаліся як з рукава — амаль штотыдзень быў у „Ніве" суседскі дэбют! А каб даведацца пра радзіну паэта, хопіць паслухаць вершыка...

— На ніўскім конкурсе „Дэбют" у мінулым годзе было двух дэбютантаў з Ляўкова — Юлька Лясота і я. Смяяўся я: „Ты дэбютуеш у сем гадоў, я ў семдзесят!"... Я пісаць пачаў даўно. Папольску і па-беларуску. Запісаў успаміны: *Moja żona jest wesoła, piękna, zdrowa i morowa.* Гэта для ўнукаў, успамін пра дзеда і бабцю: як жылося, будавалася, гадавалася. Як пішацца. Калісь мне Валодзя Гайдук расказваў: памерла мама, вярнуўся я дахаты, а там цёмна. І стаў пісаць. А ведаеце, як ён там жыў? Пад хату ваўкі падыходзілі. Цяпер, калі я еду ў лес, каля яго падворка стаўлю машыну. У год разоў дзвацаць я каля Валодзевай хаты... Файна там пахадзіць па тым лесе...

Жылі на гэтым падворку бацькі Кастусёвы — таксама Кастусь і Марыя. А ўсіх дзяцей у Целушэцкіх было чацвёра, а трое яшчэ ўмерлі. Найстарэйшы ўрадзіўся ў час вайны, калі маці выбягала да ямаў, хаваліся ад немцаў, ад самалётаў... Сама ў кашулі, дзіця ў пялюшцы... Прамарозіла дзіцё...

— А я сам меў застацца на гаспадарцы. Кончыў сем класаў у Ляўкове (з Аляксандрам Вярбіцкім вучыўся, малодшым ад нас, бо прынялі яго меншым у школу — на тыя леты ён ужо ўсё ўмеў). А пісаць я пачаў, пэўна запозна. Ужо не той розум, не тое ўкладанне... Але патрэбныя таксама і жыццёвыя веды, не толькі гульня словам. Так як тыя жорны круціць, каб мука пайшла спорна. Я і цэпам малаціў з бацькам, і ўсё рабіў. На гаспадара мяне шыкавалі... Скончыў пачатковую школу. У нас пасуседску быў сталяр. Мне падабалася сталярская праца. Пайшоў у прафесійную школу, у „завадоўку", у Гайнаўку. Бацька вельмі не хацеў, каб я ішоў вучыцца. На гаспадарцы трэба было памагаць У той час на гаспадарцы было цяжка ўсім. Прыязджаю з экзамену, бацька дзівіцца: кажу — здаў. А ён чакаў што я мо не здам! І буду ў хаце. Правучыўся я тры гады ў Гайнаўцы. Стаў на працу, у Супрасль на мэблю. Са стажыроўкі ў Супраслі забралі мяне ў войска, у Мінск-Мазавецкі. Там служыў у ВСВ — у вайсковай жандармерыі, шапкі ў іх з белым аколышам. Пасля двух гадоў у арміі прыйшоў да Майсені, у ПЗГС, на Гурнае. Пасля СТВ — у вясковым транспарце, развозіў тавар па крамах, як канваір, разгружаў, разлічаўся... А калі ў Гайнаўцы адкрылі „Мэблі" — пайшоў туды, там вельмі файна працаваць. Спачатку выслалі мяне былі на курсы аж пад Жэшуў, у Стшыжова. Там пазнаёміўся з замежнымі мадэрнымі машынамі — чэшскімі, італьянскімі. Працавалася мне вельмі добра, не наракаў і на заробкі. Працавалі мы на акордную стаўку. Фірма была сумленная, мы таксама сумленна працавалі. Цанілі нас. Кіраўніком маім быў Піскур, дзелавы хлопец. Сарганізаваў ён курсы, пасля якіх я атрымаў званне майстра-сталяра. Здаў я кваліфікацыйны экзамен. Майстрам пасля экзамену мог быць той, хто скончыў прафесійную школу і меў прынамсі пяць гадоў практыкі. Добра працавалася, толькі з даездам не вельмі. На першую змену можна было даехаць, на другую горш. Калі пабудавалі „Кераміку" ў Старым Ляўкове, паўцякалі мы туды — я і Юрка Казлоўскі. Нас не хацелі пусціць, давалі кватэры ў Гайнаўцы, каб толькі асталіся. Кажам, нашто нам вашы кватэры, калі мы тут маем свае дамы? І я на „Кераміцы" дарабіўся да пенсіі. А як на той „Кераміцы" было — я ў вершы напісаў! Пра гліну, наш невычэрпны скарб. „Цэглу нашу ўсе знаюць, з яе будынкі прыгожыя маюць"... Пісаў на саракагоддзе „Керамікі", на 45-годдзе. Стаў я там майстрам змены — брыгадзірам. У Кратошыне, куды мяне выслалі на навуку на год часу (жонка дома сама была і гаспадарыла), першыя вершы напісаў. А дома была гаспадарка. Мы спачатку пасажную кароўку трымалі, пасля тры каровы і два бычкі. Сталі гаспадарамі! Але пачало нам тое шкодзіць для „радзіннага" — быў такі перыяд, што калі ў каго была зямля, не атрымліваў сямейнага дадатку. Тады я не схацеў ад бацькі прыняць гаспадаркі. І наш бацька аддаў яе „пад жонд" за сялянскую пенсію. Астаўся нам толькі пляц, які тастаментам бацькі перадалі дзецям, гадоў пятнаццаць таму. І толькі цяпер гэтую справу мы аформілі. Гэты кавалак, дзе мая хата стаіць, мусіў я купіць. Неяк так яго выкінула гміна на ПФЗ (Дзяржаўны фонд зямлі), адно сем сотак. Гэты кавалак раней і быў бацькаў. І сталі мы тут будавацца, бо ж на чужым нельга. На пенсію пайшоў я ў 63 гады. А цяпер мы ўбачылі, што ўжо старэем, і трэба і гэту хату перадаць. Дачцэ, бо вышэй жыве. І ўсе справы аформіць. Хатка вялікая. Партэр, два паверхі і гарышча. Дзевяць на дванаццаць метраў у падставе. На горцы — найпрыгажэй...

Даўно мне хацелася штосьці напісаць. Яшчэ і як малады быў, хацелася. Асабліва тады, як быў у школе ў Кратошыне. Тады напісаў з два верышкі, нават песню, па-польску „**Mistrzowie, ach mistrzowie**". Так падабалася тая песня нашым прафесарам, а спявалі яе ўсе курсанты, дваццаць чалавек з усёй Польшчы. Пры куплеце пра настаўніцу польскай мовы дык яна расплакалася, як учора Марыёля ўсплакнула. Такі настрой быў, як і ў нас на сустрэчы....

... Задуму паэтычных сустрэч па гміне прыдумала згуртаванне „Ятрышнік" (**Storczyk**), у якім дзейнічае Галена-Марыёля Рээнт, у той час яшчэ кіраўнік святліцы ў Старым Ляўкове, і мая дачка. Дачка кажа: напішыце, тату, штосьці яшчэ для дзяцей. Я напісаў пра зайчыкаў. Па-беларуску. Дачка кажа: напішыце па-польску, бо можа яны не будуць разумець. Напісаў я больш. І так пачалося. Калі я паявіўся з братам у „Ніве" (быў па справах у Беластоку), быў ужо пасля сустрэчы ў святліцы з моладдзю. На тую сустрэчу трапіла радыё і тэлебачанне. Падабалася. А пасля спаткання ў „Ніве", першым друку, удзеле ў літаратурным конкурсе беларускай паэзіі і прозы „Дэбют" чалавек набраўся духу!

Часам хутка штосьці напішацца. Гэта калі абдумана штосьці, здаўна ходзіць па душы. Трапляюцца нейкія старыя сшыткі — а там таксама нейкія мае накіды. Бывала, напісаў, паклаў дзесьці і забыўся... А Марыся — знайшла! Часам зачатыя тэксты, незакончаныя. Адлежваюцца! Чытаю. І ў чацвёрты раз. Зіма. Хвіліна, калі няма чаго рабіць. Фільма не хочацца глядзець. Уцякаю ў кацельню, каб не чуць гуку тэлевізара (Марыся ніякай „эМкі" — „**M jak miłość**" — не прапусціць)! А я сяду, чытаю. Жыція, пра Маці Божую, Біблію... А калі цёпла на двары — дома не сяджу. Лес, рака... У лесе я недзе па чатыры гадзіны. Раз вярнуўся праз восем гадзін, жонка спалохалася што я недзе аслаб. А я такі заўзяты грыбнік і рыбалоў. Бывае, як укрунешся крыху — і кошык грыбоў поўны маеш. Асабліва лісічкі люблю збіраць, ведаю грыбныя месцы, невядомыя „канкурэнцы". Бывае, што жменямі грыбы збіраеш. Такі я збіральнік грыбоў, як збіральнік слоў. А асабліва люблю надвор'е, калі дождж ідзе. Памалу хаджу па лесе. Часам мяне так доўга дома няма, што баяцца ў хаце, што будзе са мною як з Канстанцінам Клімам з Масева ці з надляснічым Мечыславам Гайдуком, што прапалі ў лесе назаўжды... А яшчэ вельмі люблю рыбалку — сядзеш на беразе, вудачку закінеш — і думаеш... Зараз за рэчкай, Нараўкай, у паўтара кіламетра — пушча. І яе я прахадзіў. Статкі зуброў, аленяў, ваўкоў бачыў, рысі... І Мядзведзя бачыў. Ляснічага!

Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ

## Юбілей

Семяноўка, Семяноўка, гэй!
Сёння ёсць твой юбілей:
Трыста восемдзесят лет,
Найхарошчай кветкі цвет!
Людзей жыве тут многа.
Спакойнае месца ад Бога.
Тут вада, лес, трава,
Хмары, вятры, туман, раса —
Гэта наша ўся краса.
Сэрца мацней тут б'е.
Чалавек даўжэй у нас жыве.
Ніхто прыроды не атручвае,
Свежым паветрам кожны дыхае.
Сонца, чыстае неба —
Лепшага месца нам не трэба!
Семяноўка, Семяноўка, гэй!
Сёння ёсць твой юбілей!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Зашуміць нам малады лес

Каля 30 мільёнаў дрэўцаў на 3,5 тыс. гектараў пасадзяць у гэтым годзе леснікі Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў (РДДЛ) у Беластоку. Будуць гэта перш-наперш сосны, елкі, дубы і бярозы — праінфармаваў прэс-сакратар беластоцкай РДДЛ Яраслаў Краўчык.

З 31 надлясніцтва ў Падляшскім ваяводстве аднаўленне і аблясенне запланавалі трыццаць. У гэтым годзе не будуць садзіць лесу толькі ў надлясніцтве Белавежа. У надлясніцтве Броўск пасадзяць лес усяго на плошчы 0,20 га. У надлясніцтве Гайнаўка пад аблясенне прызначаць 15-гектарную плошчу, у надлясніцтве Супрасль 30 га ды ў надлясніцтвах Бельск-Падляшскі і Рудка — па 80 га. Надлясніцтва Дайліды ў сваіх лясах пасадзіць дрэўцы на 100 га (у лясніцтве Маёўка пад Беластокам пасадзілі маладзенькія дубочкі).

Сёлетняй вясною найбольш гектараў аблесіць надлясніцтва Жэдня — 255! У ім шмат лесу высеклі па розных прычынах, між іншым, непадалёк ад вёскі Жэдня. Іншыя будуць садзіць лес на меншых плошчах. І так, надлясніцтва Нурэц на 188 га, Чорная-Беластоцкая — на 127 га, Крынкі — на 123,5 га і Валілы — на 112 га.

З кожным годам у гарадах і вёсках усё менш і менш дрэў. Асабліва там, дзе ідуць новабудоўлі і пашырэнне вуліц. Толькі ў парках ім такія-сякія ўмовы. Зараз, каб убачыць прыгожыя дрэвы, неабходна выбрацца ў далёкія загарадныя лясы і запаведнікі прыроды. Пра лясы трэба дбаць — чысціць ад снегаі ветраломаў, рабіць новыя насаджэнні. Гэта нашае г.зв. зялёнае багацце.

Чым далей ад гарадоў, там лясы чыстыя і прыгожыя. У іх растуць стройныя высокія дрэвы. Там можна імі захапляцца ў любую пару года. **(яц)**

## Еўрасаюзны юбілей

Анкеты з просьбай аб інфармацыю аб планах святкавання 10-й гадавіны далучэння Польшчы да Еўрасаюза былі пасланы ў 304 гарады, згуртаваныя ў Саюзе польскіх гарадоў. Адказаў 61 апытваны, што складае 20% ад усяго ліку анкетаваных. У гэтым коле 40 гарадоў станоўча паставілася да святкавання. Чатыры гарады не прынялі рашэння, а 17 апошніх адмоўна паставіліся да згаданай падзеі. З Падляшскага ваяводства адно Бельск-Падляшскі (паводле анкеты) рашыўся адзначыць 10-гадовы юбілей далучэння Польшчы да Еўрасаюза.

1 мая ў гарадскім амфітэатры ў Бельску адбылося культурнае мерапрыемства пад назвай „Мы ў Еўропе". Імпрэза пачалася з выканання дзяржаўнага і еўрасаюзнага гімнаў. Затым можна было паглядзець тэатральны спектакль „Адкуль ты, Пінокіё?". Гурт „Фарт" прэзентаваў італьянскія, украінскія і англійскія гіты. Працавала выстаўка інтэрпрэтацыі прац еўрапейскіх мастакоў. Мерапрыемства закончылася канцэртам найбольшых гітоў еўрапейскай музыкі.

Варта адзначыць, што Бельск-Падляшскі знаходзіцца на чацвёртым месцы — за Беластокам, Сувалкамі і Ломжай — у фінансавай перспектыве ЕС у ліку найбольш развіваючыхся гарадоў на Падляшшы і прэтэндуе на адно з субрэгіянальных еўрапейскіх цэнтраў.

Паводле статыстычных даных наша краіна ўзбагацілася ў гэтым дзесяцігоддзі на 1 більён 400 мільярдаў еўра еўрасаюзных сродкаў. Ці належна былі яны размеркаваны паміж паасобнымі рэгіёнамі краіны на канкрэтныя мэты, гэта ўжо асобная тэма для спрэчак.

**Уладзімір СІДАРУК**



# Апошняе валоканне

*„Войшлі, войшлі пуцешэстваннікі", „Хадзіў Хрыстос сам па зямле" спявалі падкрынскія валакальнікі яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя.*

Звычайна ў першы дзень велікоднага свята „валачыліся" яны ад хаты да хаты, з вёскі ў вёску, славячы перамогу жыцця над смерцю. Радасць па гэтай прычыне была настолькі вялікай, што нават ноч мянялася ім у дзень. У Вялікдзень проста не было калі спаць. Уначы з вялікай суботы на святочную нядзелю — па-расійску васкрэсеніе — сустракалі ўваскрэслага Хрыста ў царкве, а цягам чарговых начэй славілі Яго па хатах. Менавіта тут, на Крыншчыне, валакальны абрад пачынаўся каля дзесятай ночы і працягваўся да раніцы. Апрача чыста рэлігійных песень групкі маладых хлопцаў, часам дзеўчанят, пад акампанемент гармоніка, бубна, губнога гармоніка ці проста грэбеня, дорылі паннам „Паву" і „Віно, віно зелянó", а кавалерам — „Ой шлі Лолам". За добрыя пажаданні плацілі ім „белым сырам налажыўшы, кілбасою акруціўшы, бутылкаю завяршыўшы". Але, паводле ўспамінаў найстарэйшых жыхароў Крыншчыны, бывала і так, што ў валакальную карзіну гаспадары маглі ўкінуць і каўбасу з буракоў. Тады бадзёрыя спевакі адказвалі ім: „Давай яйца і каўбасу, бо хату растрасу". Пра гэтыя і іншыя эпізоды можна было даведацца ў час апошняй крынскай валакальнай сустрэчы, наладжанай „Тэрра інкогнітай" супольна з мясцовым домам культуры і бібліятэкай. Прыбылыя 4 траўня ў залу каўказскай сінагогі дарослыя і дзеці мелі магчымасць ужывую пачуць пра невядомыя ім велікодныя традыцыі продкаў з вуснаў найстарэйшых жыхароў Крынак і наваколля.

У тэматычнай дыскусіі прыняў удзел, між іншым, Леанард Зянкевіч. Засумаваў ён аб сённяшнім дні. „Справы пайшлі ў кепскі бок, — заўважыў ён. — Калісь разам валокалі і каталікі, і праваслаўныя, а сёння штосьці не тое з людзьмі парабілася, яны чамусьці падзяліліся".

Адной з мэт крынскага валакальнага мерапрыемства было менавіта вяртанне да колішняй мясцовай традыцыі згоднага каталіцка-праваслаўнага святкавання.

Арганізатаркам прыйшлі з дапамогай, між іншым, дзеці і жанчыны з фальклорнага калектыву „Ліпск" з Ліпска. Ліпскія пераймальніцы і захавальніцы абрадаў даўняй Гродзеншчыны падарылі крынчанам сапраўдны велікодны спектакль. Арыгінальная колішняя вопратка, вялікі драўляны стол, льняны абрус, настольны крыж, традыцыйныя стравы, у тым ліку вядомыя ва ўсім свеце ліпскія пісанкі, натуральная майстэрская нарацыя і аўтэнтычны спеў. Усё гэта ўвяло прысутных у незвычайны настрой. „Такога ў Крынках яшчэ не было", — прызналіся крынскія жанчыны, якія таксама прыйшлі на валоканне з хатнімі пірагамі проста з печкі — падарункамі гасцям-артыстам. „Прыходзілі мы тут на спевы, але каб такі тэатр, гэта ўпершыню. І ўсё паказана як гэта сапраўды калісь было", — падкрэсліла Люба Наўмовіч.

У сёлетнім крынскім валоканні актыўны ўдзел прынялі таксама мясцовыя дзеці і моладзь. Васьмёрка з „Заранкі" ўпершыню запрэзентавалася на сцэне

На паратунак беларускай справе прыбылі таксама сябры з гарадоцкага „Хутара" і гайнаўскага „Рэха Пушчы". Гарманісты ўсіх калектываў разам з мясцовай „Капэлай з-пад Крынак" сыгралі такія танцы якіх, мабыць, нават у найбуйнейшых пасляваенных гадах на тутэйшых сёлах не чулі. Усім крынскім валакальнікам і іх сімпатыкам было наладжана святочнае застолле. Капусты і хлеба хапіла ўсім.

„На такія мерапрыемствы мы б кожны тыдзень хадзілі", — прызналіся крынчане.

На жаль, не будзе ім куды хадзіць. Крынскія сустрэчы з традыцыяй, ініцыяваныя „Тэрра інкогнітай", адыходзяць у гісторыю. Прычына — адсутнасць



з інструментамі. Да валакальных песень падыгрывалі яны на бубне, акардэоне і драўляных флейтах.

Моладзь з бібліятэчнага этнаграфічнага гуртка паклапацілася аб прыбылых на валакальнае мерапрыемства дзетак. Была безліч гульняў, звязаных з велікоднай тэмай, і салодкія ўзнагароды. Усё гэта дзякуючы выключна чацвёрцы гімназістаў адданых справе падтрымкі для нашай культуры.

якой-небудзь і скуль-небудзь падтрымкі. На чацвёртым годзе арганізацыі мерапрыемства выявілася, што справа зусім недастойная ўвагі. Крынскае валоканне загінула ў моры арганізаваных якраз у гэтым часе так званых „маювэк". Памерла смерцю натуральнай паводле паўсюдна пануючых правілаў дарвінаўскай тэорыі эвалюцыі.

**Іаанна ЧАБАН**
**Фота ГАК Крынкі**



1 ☞працяг

# Вароты адкрываныя з Бруселя

не ўзнікне, турыстычна-гасцінічная прамысловасць не будзе развівацца. Тут вялікая роля будзе ў супрацоўніцтве самаўрадаў з прадпрымальнікамі, а гэта няпростая тэма. Самаўрады, так, могуць дамовіцца, але ўжо такое прамое іх супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі, а тым больш сярод саміх прадпрымальнікаў, цяжкае для зладжання, таму што ў нашым менталітэце больш рысаў, якія схіляюць нас да канкурэнцыі, чым да супрацоўніцтва і стварэння чагосьці, што будзе служыць усім. Я таксама маю на ўвазе, скажам, магчымасць стварэння кластараў, у якіх удзельнічалі б так камерцыйныя прадпрыемствы, як і мясцовыя самаўрады, навукова-даследчыя інстытуты, вышэйшыя вучэльні, банкі або нейкія асацыяцыі прадпрымальнікаў, якія па ўласнай ініцыятыве прынялі б меры і жадалі б для іх пашукаць падтрымкі мясцовых органаў улады.

**— Ці для развіцця Сямятыцкага павета ўзбуйненне зямельных участкаў добрая з'ява?**

— Несумненна так. Гэтая тэма блізкая майму сэрцу, таму што гэта непасрэдна рэалізуе староста. У пачатку, калі толькі прыступілі мы да ўзбуйнення, я маю на ўвазе перыяд апошніх трох гадоў, калі я пачаў працаваць старастам, было з гэтым шмат праблем. На нашай тэрыторыі вельмі моцная прывязанасць да зямлі, да гэтага а не іншага яе кавалка. У мяне было шмат візітаў, не заўсёды прыемных, калі сяляне мелі крыўду, крычалі: не дазволю, не дам! На дадзены момант, аднак, ёсць першыя эфекты. Выдзелены буйныя комплексы зямлі, што значна палягчае гаспадаранне, таму што няма параскіданых участкаў быццам на шахматнай дошцы. Намечаны паясы пад'язных дарог да ўзбуйненых комплексаў і, нарэшце, гэтыя дарогі будуюцца. Наш намер заключаецца ў стварэнні ў гэтым годзе і ў сярэдзіне наступнага года больш за сто дваццаці кіламетраў дарог у большасці асфальтавых на суму больш за 43 млн. злотых, з іх агульная сума паступае з Праграмы развіцця сельскіх раёнаў і дзяржаўнага бюджэту. Гэта відавочна абазначае, што бюджэты нашага павета і нашых гмін да гэтага не дакладваюцца. З нашага боку ёсць толькі арганізацыя працэсу ўзбуйнення, работа маіх супрацоўнікаў у старастве і маё супрацоўніцтва з войтамі пасобных гмін на тэрыторыі павета, у якіх рэалізуецца гэты працэс. Праектам узбуйнення ў дадзены момант ахоплены чатыры гміны, дваццаць шэсць вёсак і 9200 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў.

**— І калі гэты працэс завершыцца ?**

— Думаю, што няхутка. Ужо вядома, што такія праекты змогуць быць рэалізаваны ў новай фінансавай перспектыве ЕС, і ўжо вядома, што наша ваяводства атрымае для гэтай мэты каля 130 млн. злотых.

**— Што гэта абазначае з пункту гледжання дарожнага будаўніцтва?**

— Калі справа ў будаўніцтве дарог, гэты перавод не непасрэдны, праект праекту няроўны. Але думаю, што ў кантэксце праектаў па кансалідацыі за гэтыя грошы можам зрабіць каля 250-300 кіламетраў дарог. Толькі што трэба хацець зрабіць гэта. У цяперашні час сямятыцкае староства, несумненна, з'яўляецца піянерам у гэтай галіне. Наш павет 90% сродкаў у маштабе ваяводства выкарыстоўвае для гэтых мэтаў. Некаторыя дзеянні ў гэтым напрамку былі зроблены на тэрыторыі Бельскага і Гайнаўскага паветаў, але ў невялікіх маштабах. Наш павет у гэтай справе з'яўляецца несумненным лідарам у краіне.




**— Зменім тэму; ці добра жывецца беларусам з пачуццём беларускасці ў Сямятыцкім павеце?**

— Гэтае пытанне я б троху абярнуў у іншым накірунку. Я не адчуваю сярод жыхароў нашага павета такой адназначнай ідэнтыфікацыі з беларускай нацыянальнасцю. Беларускасць, вядома, прыкметная, аднак, больш людзей ідэнтыфікуе сябе з веравызнаннем. Часта, калі спытацца ў нашых людзей, ці з'яўляюцца яны беларусамі, адказваюць, што не, яны з'яўляюцца праваслаўнымі. Мы імкнемся адпавядаць чаканням беларускай меншасці. Мабыць, гэта не так добра выконваецца як у гмінах чыста беларускіх у Гайнаўскім або Бельскім паветах, але ў супрацоўніцтве, скажам, з БГКТ ці ў непасрэдным супрацоўніцтве нашага павета з Камянецкім раёнам, з якім мы падпісалі адпаведнае пагадненне, рэалізуем культурныя патрэбы беларускай меншасці. Такіх імпрэз у Сямятычах праводзіцца штогод больш за дзясяць. Ад двух гадоў павет у супрацоўніцтве з БГКТ, Сямятыцкім кансорцыумам эканамічных ініцыятыў, Управай горада Сямятычы арганізуе мерапрыемства «Культура без межаў». У мінулым годзе ў большасці выступалі на ім якраз беларускія калектывы і карысталася яно вялікай папулярнасцю.

**— Як можна трактаваць Ваш лозунг «Змяняем Усходнюю сцяну на Усходнія вароты»?**

— Я веру, што ў выніку працэсаў, якія адбываюцца ў наш час у Еўропе, галоўным чынам ва Усходняй Еўропе, наступіць адкрыццё паміж краінамі Еўрапейскага Саюза, а менавіта Польшай, і Украінай і ў найбліжэйшай будучыні — спадзяюся — з Беларуссю. Я жадаў бы, каб гэта не было адкрыццё рэвалюцыйнае, а эвалюцыйнае, што гэтая мяжа не будзе Усходняй сцяной, а якраз Варотамі, што наша пазіцыя, якая ў нас ёсць шанцам, дзякуючы дзеянням нашага ўрада і ўрадаў гэтых краін, стане нашым козырам, будзе спрыяць нашаму развіццю, гандлю, эканамічным кантактам. Наколькі мне вядома, некаторыя прыкметы, якія паказваюць на аналагічныя чаканні на беларускім баку, таксама бачныя. Быў перабудаваны пагранпераход у Палаўцах, добраўпарадкаваны чыгуначны пагранпераезд у Семяноўцы з фітасанітарнай станцыяй, што стварае, на мой погляд, сур'ёзныя падставы для аптымізму, гледзячы на далейшае эканамічнае супрацоўніцтва, якое поўнасцю павінна пачацца з моманту ўступлення ў сілу Пагаднення аб малым памежным руху, але, як вядома, рух тут на баку прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**— Аднак гэтыя Вароты будуць напаўадкрытымі калі, напрыклад, не будзе аўтастрады S-19 паміж мяжой у Кузніцы-Беластоцкай і мяжой са Славакіяй. Ці штосьці Вы збіраецеся зрабіць у гэтай справе?**

— На самой справе, будуць напаўадкрытыя. Да нядаўняга часу будаўніцтва гэтай дарогі не было занесена ў транс'еўрапейскія планы дарожнай сеткі. Некалькі месяцаў таму ў выніку галасавання ў Еўрапарламенце гэтая дарога выпала з гэтай сеткі. Маім заданнем у якасці еўрапарламентарыя ў рамках найбуйнейшай палітычнай групоўкі ў Еўрапейскім парламенце — Еўрапейскай народнай партыі было б давядзенне да таго, каб дарога S-19 вярнулася ў сетку, што паспрыяла б хуткаму дзеянню Еўрапейскай камісіі, якая фінансавала б гэты шлях. Без належнай і адпаведнай наяўнасці сувязі, няма што казаць аб развіцці Падляшша.

**— Вы сказалі калісьці: бяздушнае прымяненне закону заўсёды беззаконне. Як гэта разумець?**

— Адносна прымянення закону ў Польшчы можна жадаць лепшага, ён пастаянна змяняецца. Гэты прынцып я выкарыстоўваю ажыццяўляючы ўсялякія дзяржаўныя функцыі, і думаю, што роляй публічных функцыянераў, чыноўнікаў з'яўляецца дапамога падаткаплацельшчыкам, нашым жыхарам. Польскае заканадаўства прадугледжвае шмат магчымасцей для прымянення яго, каб жыццё людзей палегчыць, а не замінаць у ім. Наш закон мае той недахоп, што дазваляе розныя інтэрпрэтацыі. Законы можна інтэрпрэтаваць у больш добразычлівы або строгі спосаб. Я выказваюся за больш дружалюбнае яго прымяненне. Мае ён служыць вырашанню праблем, а не каранню просьбіта. Многія запісы, што прымяняюцца ў нашым законе, з'яўляюцца бяздушнымі. Гэта вялікі дэфект у функцыянаванні нашай дзяржавы.

**— Дзякуй за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Экуменізм па-белавежску



Здаецца, што цяжка сабе ўявіць лепшае месца для экуменічных падзей чым нейкая мясцовасць на Падляшшы. Дык Белавежа гэта такая ж мясціна. Тут жывуць мяшаныя праваслаўна-каталіцкія сем'і ды па-суседску мірна суіснуюць праваслаўныя з каталікамі. Мы з мужам з'яўляемся добрым прыкладам такога мяшанага сужонства ды сям'і. У нядзелі мы наведваем царкву або касцёл. У гэтым годзе мы цешыліся, што Вялікдзень адсвяткуем супольна. Мы маглі таксама супольна рыхтавацца да самага вялікага хрысціянскага свята ў час Вялікага посту. Цікавіла нас, ці магчымае будзе супольнае экуменічнае асвячэнне ежы. На жаль, мы расчараваліся. Напрыклад, у Беластоку супольнае асвячэнне ежы паволі становіцца традыцыяй. У гэтым годзе кошыкі з ежай жыхары Беластока маглі асвяціць на Рынку Касцюшкі. У час гэтай урачыстасці ежу асвячалі каталіцкі беластоцкі мітрапаліт ды праваслаўны беластоцка-гданьскі архіепіскап. У мінулым годзе Асамблея каталіцкіх ардынарыяў Святой Зямлі вырашыла святкаваць Вялікдзень супольна з праваслаўнымі, 5 траўня, замест 31 сакавіка паводле грыгарыянскага календара.Такое рашэнне было выклікане просьбамі вернікаў. У айчыне Хрыста пражывае многа мяшаных сужонстваў і каталіцкі патрыярхат горада Іерусаліма хацеў дапамагчы каталіцка-праваслаўным сем'ям супольна святкаваць Пасху. На маю думку, некаторыя праваслаўныя з падляшскіх вёсак баяцца наблізіцца да каталікаў, каб не згубіць сваёй тоеснасці. Можа аднак у будучыні ўсё ж больш будзе элементаў супольнага святкавання. Можа і ў Белавежы будзе для нас магчымасць асвяціць ежу ў час экуменічнай урачыстасці. Калі будзе наступная магчымасць супольна святкаваць, паспрабуем нешта зрабіць, каб наша мара здзейснілася.

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**

## Зацікаўленыя купляюць „Ніву"

8 мая гэтага года хацеў я купіць „Ніву" № 19 у прэсавым кіёску ў прасторнай пачакальні ПКС у Беластоку. Да 10 гадзіны раніцы яе ўжо купілі. Тады я пайшоў да кіёска побач аграмаднага будынка ПКС. Наш беларускі тыднёвік і тут ужо прадалі. Мне сказалі, што ў іх газетна-часопісным кіёску два экземпляры „Нівы" купіла адна жанчына.

З Беластока ехаў я аўтобусам ПКС у Гайнаўку і чытаў „Ніву", якой два экземпляры раніцай узяў у рэдакцыі „Нівы". Адна пасажырка, якая сядзела за мной, папрасіла ў мяне наш беларускі часопіс хаця на хвіліну. Я падаў ёй газету. Мая субяседніца ехала ў Гайнаўку, так як і я, і мы крыху разгаварыліся. Сказала, што галоўнага рэдактара „Нівы" ведае з тых гадоў, калі ён настаўнічаў у белліцэі ў Гайнаўцы. Спытала пра некаторых журналістак „Нівы" і Радыё Рацыя, бо таксама іх ведае. Яна ведае прозвішчы нашых беларускіх пісьменнікаў з Беласточчыны ды хто з іх жыве і хто памёр.

Я не настойваў з роспытамі пра незнаёмую мне жанчыну. Яна мяне „зачапіла", бо ёй уявілася, што я пэўна буду не хто іншы а Васіль Сакоўскі, былы настаўнік беларускай мовы ў белліцэі ў Гайнаўцы. Я сказаў, што Васіль Сакоўскі і зараз піша ў „Ніву" і неабходна купляць наш тыднёвік, каб даведацца, на якія тэмы ён піша.

9 мая г.г. зайшоў я ў спажывецкую краму ГСу пры помніку ў Нараўцы. У продажы былі тры экземпляры „Нівы" № 19. Два з іх я купіў для Таварыства «Ятрышнік» у Лешуках.

Затым паехаў я на нараўчанскую пошту і там купіў усе тры экземпляры для знаёмых у Новым Ляўкове, Міклашэве і Плянце. У той жа дзень вечарам была сустрэча з былым карэспандэнтам „Нівы" 91-гадовым Уладзімірам Клімюком (жыхарам Плянты) у святліцы ў Плянце і ў мяне купілі ўсе экземпляры нашага беларускага штотыднёвіка.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Спяваць ад душы і для сяброў!

Не здзіўлюся, калі за нейкія семнаццаць гадоў на Еўрабачанні пабачу **Адрыяна Данілюка** з Міхалова. Якая прыродная зорка эстрады! Я глядзела як зачараваная на хлапчука, і не магла адарваць вачэй. І не таму, што яго спеў падаўся як з іншага, дарослага ўжо, свету. Не, у голасе і сцэнічнай прэзентацыі было нешта загадкавае, нешта, што перасягала магчымасці дзіцяці. Адрыян спяваў амбітную і складаную кампазіцыю пад загалоўкам „Свет дзіцяці". Гэты твор выканала яшчэ некалькі школьнікаў у час раённага конкурсу „Беларуская песня" для прадшколляў, пачатковых школ і гімназій.

Ды не кожны ўмеў так цудоўна справіцца з гэтым выклікам як Адрыян Данілюк. Хоць хлопчыка не дацаніла камісія, затое належным чынам ацанілі аднагодкі і старэйшыя спевакі. Калі пачаў ён спяваць, у залу забеглі ўсе дзеткі, якія круціліся на калідоры і парушалі цішыню. Арыгінальнае і моцнае выступленне міхалоўскага спевака прагнала прэч з залы атмасферу нуды і разлезласці. А яго сяброўкі Валерыя Люляк, Наталля Алексяюк укаранілі добрую, прыгожую атмасферу. У час, калі на сцэну выйшлі гімназісткі з гітарамі, хацелася, каб конкурс трываў і трываў. Марта Куц з Новага Двара настолькі мілагучна і паэтычна праспявала „Азёры дабрыні", што ў час яе выступлення хацелася закрыць вочы і марыць. Шкада, што не бачылі гэтага гімназісты. Тыя лічаныя, якія з'явіліся на агляде, недзе зніклі пасля свайго выступлення. Шкада, што няма ў іх цікавасці да іншых!



Адрыян Данілюк



Сябры з Новага Двара

Так ці інакш, на песенным конкурсе ў Беластоку з'явіліся таленты. Мяне найбольш захапіла Міхалова, хаця гэта зразумела і лагічна. Дзеці і моладзь працуюць там пад кірункам таленавітага Юркі Астапчука, лідара „Прымакоў". Усе вучні спадара Юркі спяваюць не дзеля адных конкурсаў. Яны спяваюць для людзей і адначасова развіваюць свой талент. І важна, што выступаюць на школьных і гмінных імпрэзах. Апрача музычнай культуры і характэрнай сцэнічнасці (падгледжанай у сваіх майстроў „Прымакоў") старанна вымаўляюць беларускія словы, разумеюць змест песень.

— Калі да мяне прыходзяць вучні, я адразу ім гавару, што будзем спяваць і размаўляць па-беларуску. І ўсім гэта падабаецца, — адзначае спадар Астапчук.

Вельмі файна і па-маладзёваму выступілі дзяўчаты з Новага Двара. Як прызналіся, яны ўпершыню трапілі на такі конкурс і спявалі па-беларуску. У Беласток прыехалі са сваім настаўнікам-катэхетам (па каталіцкай рэлігіі). Яны, што важна, не толькі пашырылі геаграфічны абсяг конкурсу, але яшчэ паказалі, што спяваць трэба ад душы, непрымушана, так каб падабалася сябрам. Калі пра геаграфічны абсяг — тут бывае па-рознаму. Вось, недзе зніклі Бабікі, Крынкі, Залукі, Гарадок, Шудзялава, Беласток (мова пра ПШ № 4).

Як заўсёды, вылучаліся наймалодшыя спевакі з беларускага прадшколля. У іх рэпертуары было шмат песень на словы Міры Лукшы, асабліва з тома „Жывінкі з глыбінкі".

А вось і прозвішчы лаўрэатаў, якіх назначыла камісія ў складзе Марыюш Харужы, Іаанна Аўгустынчук, Мацей Муха. Сярод салістаў з класаў 0-ІІІ першыя месцы атрымалі Іаанна Пяткевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, Аляксандр Хамянюк і Кацярына Васькоўская з беларускага прадшколля ў Беластоку ды дуэт Юстына Бакуненка і Іаанна Мусюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія. У катэгорыі класаў IV-VI першыя месцы атрымалі салісты Наталля Алексяюк і Валерыя Люляк з ГАК у Міхалове, Аляксандра Раманюк з НШ свсв.Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку.

Агляд арганізавала Таварыства беларускай культуры 7 мая ў беластоцкай сядзібе БГКТ.

**ЗОРКА**

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК**

PS. У наступных нумарах „Зоркі" напішам пра цудоўныя выступленні дашкольнікаў з беларускага садка ў Беластоку.

## Вершы Віктара Шведа

### На ўроку рэлігіі

Настаўнік божага закону
Запытаў вучня Лявона:
— Скажы ці ў д'ябла злога верыш,
Што выступае нейкім зверам?

— Здаецца праўда тут такая,
Як і са Святым Мікалаем,
Асабліва ў нашыя святы
Ўвасабляецца ў іх наш тата.

### Пішаш як курка кіпцюрамі

— Страшэнна пішаш ты Адаме,
Як быццам курка кіпцюрамі.
Не прачытаю я ніколі
Што ты крымзоліш з уласнай волі.

— У свае крымзолы я ўкладаю
Так многа працы і высілку.
Я ў крымзолах тых хаваю
Арфаграфічныя памылкі.

### Вучыцца не позна ніколі

Настаўнік з вучнем сварыўся:
— Чаму на заняткі спазніўся?
Настаўніку выясніў Коля:
— Вучыцца не позна ніколі.

А родны бацька Міколы
Не мог раней скончыць школы,
Вучыцца пачаў з уласнай волі.
Вучыцца не позна ніколі.

### Якое тваё хобі?

Спыталі вучня-сноба:
— Якое тваё хобі?
— А што гэта такое? —
Спытаў ён з непакоем.

— Тое будзе, мой любы,
Што ты найбольш любіш.
— Адкрылі Вы мне вочы —
Люблю грыбны супочак.






Фота Ганны Кандрацюк

*Вікторыя БАРЭЧКА,*
*Тарнопаль, школа ў Нараўцы*

## Людзі

*Людзі даюць шчасце,*
*Даюць каханне, дом,*
*Пачуццё бяспечнасці і радасці.*
*Даюць неспакой,*
*Смерць,пакуту,*
*Боль,адзіноту,*
*Пачуццё бездапаможнасці.*
*Але без людзей*
*Мы не можам жыць.*
*Людзі з'яўляюцца часткай нас.*

*Уршуля МАРЧУК, Нараўка*

## Вочы

*Памятаю твае словы,*
*Якія я чытала ў тваіх вачах.*
*Ты нічога не казаў,*
*Толькі глядзеў на мяне.*
*У тваіх вачах я ўсё вычытаю*
*І чытаю далей...*

# Вясна

Вясна зноў падарыла дрэвам адзенне. Зялёным полымем гараць лугі. Сонца суцеле лотаць ля ракі. У кустоўі свішча салавей, то зноў кукуе зязюля-вяшчунка. Ля дарогі ляціць матылёк светла-жоўтага колеру.

Паветра напоўнена пахам чаромхі. Пачынаюць квітнець сады. Над духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы. На балоцістым лузе жаласна крычыць кнігаўка ды паважна ходзяць даўганосыя буслы. Усюды рух, гоман, спевы.

Нада мною раскошнае сонца, жаваранкі і белыя воблачкі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. І высока, высока!.. Лёгкі ветрык прыносіць пах першых пракосаў. І на душы так прыемна, светла. Вясна, як я цешуся твайму вяртанню!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Фота Ганны Кандрацюк

## Увага, конкурс!!! (№ 20-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 25 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Крыл не маюць, а лятуць.
Ног не маюць, а бягуць.
Не ў вадзе, але з вадою.
Адгадайце, што такое?
(Х....)

**2.**

Дуга злучыла берагі
Прыгожа, нібы ў казцы,
А вось званочак да дугі
Прымацаваць не ўдасца.
(В......)

**Адказ на загадкі № 17: Дзяцел, зязюля.**
**Узнагароды, CD з беларускай музыкай, выйгралі Наталля Нікіцюк з Арэшкава, Міхал Панікверцы і Мальвіна Рышкель з Бабікаў. Віншуем!**

*Наталля ГОСЦІК,*
*Саколе, ПШ у Міхалове*

## Кепскае жыццё?

*Ёсць людзі якія патрапяць*
*Перадаць у сэрца*
*Праменьчык сонца,*
*Даючы нам пачуццё,*
*Што жыццё не такое кепскае.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 16:

Сом, джала, як, дно, дзялянка, зязюля, неба, асёл, навык, баль, на, Ас, абойма. Жаба. сказ, дзень, дзюба, няласка, доля, акно, нос, ай, лук, адліга.

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі** Мальвіна Маркевіч, Кацярына Лаўрашук, Дамініка Календа з Бельска-Падляшскага, Юлія Жукевіч, Бэата Цілюлька, Юстына Вайцяховіч з Бабікаў, Якуб Андрацкі з Саколкі. Віншуем!



Віктар Швед

## Сумны ўспамін

*Памяці Дзядулі*

Няньчыў мяне мой дзед Ілья
І думаў аб асвеце.
Пачаў хадзіць у школу я,
Выхоўваць брата Пецю.

На хлебнай печы быў наш свет
Дзіцячы, нецікавы.
Памёр раптоўна любы дзед,
Ляжаў на цвёрдай лаве.

У хаце дзедавай жанчын
Прысутнічала многа
Яны спявалі шмат гадзін
Прад смертнаю дарогай.

Азваўся з думкаю такой
Мой брацік малалетка:
— Жанчыны цэлаю гурбой
Закалыхалі дзедку.

## Вясковыя лавачкі

У міжвойні, на палосках,
Гаравалі нашы вёскі.
Жылі бедна, небагата,
Не было святла ў хатах,
Тэлефонаў, радыёлаў.
Было крышку малых школаў,
Надта бедная асвета
Для вясковых школьных дзетак.
А ад вуліцы, пры хатах,
Было лавачак багата,
На якіх ужо старэчы
Грэлі ў сонцы свае плечы.
А вясковыя дзяўчаты
Гурмой выйшлі з родных хатак,
Ды на лавачках сядалі
І спявалі, і спявалі...
Іх агулькавыя песні
Паліліся напрадвесні.
Адазвалася наўкола
Моладзь у суседніх сёлах.
Маладое асяроддзе
Сум развейвала ў народзе.

Барыс Руско

## Усё знаходзіцца побач

У сне я ўгледзеў
трыльёны планет
у сетцы жыцця.
Жывы Сусвет
у гордзіевым вузле
бясконцасці.

Узбіраецца па строме.
Шукае пераходу.
А лабірынт здарэнняў
неакрэслены,
як неакрэслены гарызонт
уяўлення.

У Суперпрасторы
ўсё знаходзіцца побач.

## Ненасытны

Калі стануў на гарызонце
ідзі па-за адчуванне,
час,
уяўленне.

Ідзі ўглыб маўчання,
да дна цішыні.

Дзе згорнутыя вымярэнні.
На сустрэчу няяўным сэнсам.
Дзе не мераюць крокаў.

Ненасытны
найменаваным
ідзі.

*Пераклаў з польскай мовы*
*Віктар Швед*

Здымак з калекцыі Бэрнарда Стэповіча з 1926 г.



Касцельны хор пры беларускіх набажэнствах у касцёле св. Мікалая ў Вільні. Першы рад — сядзяць ад лева: Мар'ян Пецюкевіч, Людміла Будзка, Альбін Стэповіч, кс. Адам Станкевіч, Станіслава Туркевічанка, Станіслаў Станкевіч (кнігар); другі рад стаяць — ад лева: Станіслаў Станкевіч, Уладыслаў Тарасэвіч, ? Тумаш, Ізабэля Тумаш, ?; трэці рад — ад лева: ?, Туркевічанка, Ганна Шутовіч, Ірэна Будзка, Бэрнард Стэповіч, Язэп Найдзюк

# Пад уплывам часу — пра Альбіна Стэповіча

Прачытаўшы ў „Ніве” (№ 12, 23.03.2014 г., с. 10) „Дату з календара” Уладзіміра Хільмановіча „Забыты кампазітар. 120 гадоў з дня нараджэння Альбіна Стаповіча” я ўцешылася, што з такой нагоды ўспамінаецца пра яго менавіта ў гэтым тыднёвіку. Аднак зараз прыйшла мне ў галаву сумная рэфлексія наконт „забытага”. Мне асабіста стала сумна асабліва таму, што хто як хто, але „Ніва” памятала пра кампазітара яшчэ ў 1990-я гады ў сотыя яго ўгодкі. Мінула 20 гадоў і нават пра тое не ўспомнілася. А тады ж быў таксама апублікаваны мой тэкст пра яго „Беларусь перад усім!” і здымак („Ніва” № 15, ад 10.04.1994 г., с. 9). Тады ўжо была сабрана мною спадчына Альбіна Стэповіча і перададзена Эдмундам Стэповічам прафесару Адаму Мальдзісу ў Менск. Дарэчы ў снежні 1994 г. стараннямі сем'яў Эдмунда і Вітаўта Юрыя Стэповічаў, Людвікі і Сяржука Вітушкаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў Рэспублікі Беларусь у Гданьску і ў Вільні, гданьскіх, віленскіх і менскіх беларусаў быў адкрыты на могілках Роса ў Вільні помнік на магіле Альбіна Стэповіча. Гісторыю адкрыцця помніка апісала я таксама ў „Ніве” — „Усё пачалося ад «Хаткі»” (№ 5, ад 29.01.1995 г., с. 5). Тады я пісала: „Пра актыўную яго дзейнасць — якая моцна мяне зацікавіла — сведчаць публікацыі міжваеннага друку і дакументы, захаваныя ў архівах ад Гданьска да Менска. Такназбіралася шмат багатай спадчыны — больш за 200 старонак. (...) Патрэбу ўзнаўлення помніка прапанавала я розным асобам пры розных нагодах, таксама як выданне спадчыны А. Стэповіча. На жаль, малое было зацікаўленне здзяйсненнем маіх думак”. З помнікам пашчасціла. Тады ў снежні 1994 г. я пісала: „На шчасце заангажаваліся пляменнікі з Гданьска, якія сфінансавалі пабудову помніка, а сям'я Людвікі і Сяржука Вітушкаў з Вільні пільнавала справу на месцы, а менавіта дапамагла аформіць дакументацыю і выкананне помніка, а таксама сарганізаваць яго адкрыццё і прыняць гасцей. Ідэйна і фінансава справу падтрымалі таксама генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску Аляксей Шахновіч і спадарыня Ганна Сурмач з „Бацькаўшчыны”. Мне на хуткую руку ўдалося падрыхтаваць невялічкі зборнічак Альбінавай спадчыны з бібліяграфіяй яго публіцыстыкі (30 старонак) і зацікавіць ягонымі песнямі Ірынея Лаўрэшука”. Пра адкрыццё помніка пісала таксама Ганна Сурмач у артыкуле „Гучалі песні” ў „Голасе Радзімы” (№ 1, ад 5.01.1995 г., с. 4). Пасля паявіліся біяграмы Альбіна Стэповіча ў бібліяграфічным слоўніку „Беларускія пісьменнікі” (Мінск 1995, т. 5, с. 414-416), у „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (Мінск 2001, т. 6, кн. I, с. 405-406). Здавалася, што хутка і будзе апублікавана спадчына Альбіна Стэповіча. Аднак не — пралежала 20 гадоў і далей чакае выдання. Паколькі пару гадоў у пачатку 1990-х занялі мне пошукі яе, са здзіўленнем прачытала напісанае Уладзімірам Хільмановічам, што літаратурная і іншая спадчына Альбіна Стэповіча расцярушаная. Так, яна сапраўды патрабуе перавыдання, але ці знойдуцца ахвотныя, каб даць грошы на яе выданне? За 20 год ахвотныя не знайшліся. Мала таго, за гэты час асабліва не даследавалася спадчына Альбіна Стэповіча. Паявілася пару публіцыстычных артыкулаў, сярод якіх можна пералічыць: Г. Бабкін, *Ці пачуем яго голас* („Літаратура і мастацтва” № 3, ад 18.01.1991 г.), H. Głogowska, *Karierę rozpoczynał w Ciechanowcu* („Czasopis”, 1993, nr 9, s. 2-4), А. Глагоўская, *Кар'еру пачынаў у Цеханаўцы* („Спадчына”, 1994, № 6, с. 13-29), І. Драўніцкі, *Ён нарадзіўся ў Баранях* („Астравецкая праўда” № 45, ад 13.06.2012 г., с. 6). Прыйшлося самой узяцца за аналіз творчасці Альбіна Стэповіча, якую маю намер прадставіць на польска-беларускай канферэнцыі ў Менску ў канцы чэрвеня.

Пры нагодзе варта ўспомніць, што нельга адвольна пераменяць прозвішча на Стаповіч, нават калі для беларускай мовы характэрнае „аканне”. Усе Стэповічы так менавіта пісалі сваё прозвішча — праз „э” (або „е” ў рускай версіі). Так яно запісана ў дакументах і на магілах. Такога правапісу прозвішча даказваў пры жыцці Бэрнард Стэповіч. У „Ніве” таксама пісалася ў 90-ыя гады праз „э”. Адкуль зараз такая перамена? Ці гэта кароткая памяць, якая нам беларусам дазваляе ўсё адкрываць нанава тое, што ўжо даўным даўно адкрыта?

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

# З „Валізкай” у „Даліну. З-над Нарвы і Свіслачы”

Мінулай вясной у Белавежы з'явілася цікавае месца — кафэ-клуб „Валізка”. Можна тут ва ўтульнасці пасядзець, пагутарыць ды даволі часта трапіць на культурныя мерапрыемствы — вернісажы, канцэрты, аўтарскія сустрэчы. Апошнім часам, 24 сакавіка, адбылася сустрэча з Багданам Дудко з нагоды публікацыі ягонай кніжкі „Даліна. З-над Нарвы і Свіслачы”. Прэм'ера выдання адбылася ў час Міжнароднага кніжнага кірмашу ў Беластоку 11-13 красавіка. Дудко гэта журналіст, аніматар культуры, паэт родам з Цісоўкі.

Сустрэчу вяла Дагмара Віданаў. У камерным коле ўдзельнікі перш за ўсё гутарылі. Інспірацыяй для размовы былі творы Багдана Дудко, які на пачатак прачытаў два вершы. У час сустрэчы была магчымасць праглянуць кніжку. Увагу ў яе звяртаюць фатаграфіі (між іншымі аўтарства Віктара Волкава, аўтара і Дагмары Віданаў) і двухмоўнасць. Двухмоўнасць выдання падкрэслівае характар рэгіёна — „даліны” ды акрэслівае душу паэта. Вершы напісаны на польскай мове ды перакладзены Мірай Лукшай на мову беларускую. Вядучая сустрэчу звярнула ўвагу на пластычнасць, вобразнасць вершаў, з якімі ідэальна супадаюць фатаграфіі. Яны вельмі добра аддаюць настрой твораў.

Некаторыя ўдзельнікі сустрэчы звярнулі ўвагу на сум, які моцна прабіваецца з вершаў. Гэта выклікала пытанні: пра што кніжка, што абазначае тэрмін „даліна” на тытульнай старонцы. Аўтар, шукаючы сваю айчыну, сумуе па Вялікім Княстве Літоўскім. Ён шкадуе сучаснасці, якая мяняецца ў мінулае, якое ўжо не вернецца. Людзі мяняюцца і ў ягонай вёсцы Цісоўцы. Маладзейшыя выязджаюць у гарады, бягуць дзесьці, шукаюць спажывальніцкае шчасце. Месца лавачак перад хатамі пры вуліцы займае фейсбук. Бабулі ўжо канчаюць сваё жыццё ды жывуць усё часцей цікавымі лёсамі герояў тэлесерыялаў. Дык і краявід мяняецца — будуюцца іншыя чым традыцыйныя хаты, няма ўжо коней ды кароў на лугах. Засталіся птушкі, якія прысутныя амаль у кожным вершы. Здаецца, што яны — важны ды сталы элемент краявіду „даліны — малой айчыны”. Сум і тугу лірычнага „я” засланяе пачуццё — каханне, якое здаецца іх перамагае. Яно ўпасоўваецца ў краявід, мінуўшчыне прыдае цяперашні характар. Кніжка нават прысвечаная жанчыне. І здаецца, што нават вясковая хата — родная хата паэта — змяняецца ў каханую кабету. Сентыментальныя ды настальгічныя вобразы спавітыя ў імглу кахання. У вершах сустракаем моцны сімвал — жураўлі як увасабленне свабоды ды даўгавечнасці.

Гутарка засяродзілася таксама на своеасаблівасці рэгіёна ды самой Белавежы. Тут людзі іншыя, іншая якасць жыцця, час іначай плыве. Тут часцей задумваемся над сэнсам жыцця. Тут унікальная культура, тут здаўна сутыкаецца новае і старое, усходняе і заходняе ды спалучаецца ў тутэйшае. Спадзяюся, што вершы Багдана Дудко заахвоцяць чытача наведаць польска-беларускае памежжа, наваколле Цісоўкі ды прымусяць да рэфлексіі над сэнсам жыцця.

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**



Будынак дашоўскай школы

# Карцінкі з глыбінкі (1)

**Незвычайная раніца — каўтуны рэдкай хмары лунаюць нізенька, кранаючы сырой веснавой зелені, быццам анёлы апускаючыся на зямлю, быццам Нябёсы сыходзілі са сваіх высот, быццам між Беластокам і Заблудавам здзяйсняўся цуд новазапаветнай Пяцідзесятніцы...**

На бельскім вакзале пуставата, у пачакальні адзін чалавек, на пуцях доўгі таварны поезд з пустымі вагонамі. Адкрытае касавае акенца чакае пасажыраў, ахвотных пакарыстацца паслугамі мясцовага постпэкаэсаўскага перавозчыка. Перад вакзалам кволая група забіраецца ў аўтобус у напрамку Беластока. Аўтобус у напрамку Сямятыч забірае двойку пасажыраў; каб набраць больш машына адпраўляецца па горадзе — каля царквы і шпіталя іх лік папаўняецца пад дзесятку.

У Малінніках быццам Дзень Зямлі. Перад панадворкамі красуюцца еўрапейскія сметнікі, чакаючы вялікай сметніцы, якая забярэ іх змесціва і павязе ў нейкі прамысловы кругаварот, адкуль у выглядзе новых рэчаў з новых рэчываў мае зноў вярнуцца ў шырокае карыстанне.

Аўтобус на кароткі прамежак часу з'язджае з галоўнай шашы ў Залешаны і Сакі, спадзяючыся, так як па Бельску, набраць больш пасажыраў — дарэмна. У Залешанах машына абганяе пастаўшчыка малака, які свой тавар у двух бітонах узваліў на спіну веласіпеда, так як у экзатычных нам краінах возяць тавары на спінах аслоў; цяпер і ў нас крыху экзатычна...

З аўтобуса злажу ў Дашах і кіруюся ў мясцовую краму; крама ў Дашах пабудаваная ў эпоху Кастуся Майсені паводле тадышняга дызайну для Гайнаўшчыны. У большых вёсках, а такой трэба лічыць Дашы, узводзіліся большыя крамы з двума памяшканнямі: адно было для харчовага тавару, другое — для гаспадарскага. Уваходжу ў адкрытыя дзверы, за якімі камерная бяседа траіх мужчын не надта пажылога ўзросту. На сталe пасярэдзіне памяшкання тры тары: з напойкай, запойкай і кілішак. Выходжу і заходжу ў другія дзверы, за якімі ўласцівая крама. Там прадавец і наведвальнік, які прыйшоў паглядзець што дзеецца ў найбліжэйшым яму свеце.

Падаюся ў бок школьнага будынка. Школьны пляц у прыстойным радыусе ад будынка расчышчаны ад высокай расліннасці, там толькі трава. І гурба друзу ад знесенага гаспадарчага будынка. Галоўны школьны будынак яшчэ не кранулы дабрадзействам рамонту, аднак каля яго стаіць легкавушка, што можа абазначаць перспектыву нейкага там зруху. На агароджы недалёкага панадворка развешаны ўстарэлы пажарны шланг: можа ён вісіць там дзеля аздобы, а можа трапіў туды папросту толькі таму, што можна было яго забраць. Мабыць з ходам нейкага часу трапіць у еўрасметнік, бо апошні трэба будзе нечым запоўніць...

У тапаграфічным плане Дашы нагадваюць вілы-дваякі і згаданая школа займае ў тых вілах месца куля. А „тронкі" гэта асноўная вуліца вёскі. Па ёй дзве ці тры хаты з адмыслова аздобленымі шчытамі, аднак тыя хаты пустуюць і хіляцца. Пры гэтай вуліцы яркім колерам вылучаецца мураваны будынак святліцы з пажарным дэпо. Гэты адметны колер паказвае своеасаблівую святочнасць, паказвае тое, што аб'ект служыць насельніцтву толькі ў вельмі важных хвілінах, пры вельмі святочных нагодах, больш нават урачыстых чым святы ў царкве. А ролю будзённай святліцы выконвае згаданая ўжо крама, дзе ў сілу нашай патрыярхальнай традыцыі мужчыны аператыўна вырашаюць найважнейшыя пытанні.

Побач святочнай святліцы чатыры высокія, змацаваныя з сабою драўляныя слупы, быццам для высокага абарога. У не надта адлеглую даўніну яны неслі нейкую нагрузку, мабыць на іх быў замацаваны трансфарматар. Месца драўляных слупоў для электрычнага павуціння занялі слупы бетонныя, а драўляная чацвёрка выконвае цяпер ролю гістарычнага электрыфікацыйнага экспаната. Да часу, аж нейкая брусельская дырэктыва загадае іх утылізацыю...

З Дашоў у напрамку Мікуліч і Рагачоў жвіроўка. Спачатку ў ёй шмат не надта глыбокіх ухабін, а пасля яна становіцца роўненькай, быццам вайсковая шарэнга для прывітання нейкага маршала, быццам зношаная скура твару пад уздзеяннем батулатаксіна (botox). Значыць недзе там адміністрацыйная граніца паміж Кляшчэлеўскай і Мілейчыцкай гмінамі, паміж Гайнаўскім і Сямятыцкім паветамі. Гэта цяпер, а калісь тут пралягала мяжа паміж Бельскім і Берасцейскім паветамі, паміж Падляшскім і Берасцейскім ваяводствамі, паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім.

У Мікулічах пры перасячэнні расходных вуліц стаіць збудаваны з дошак пахілы ўжо будан; побач яго дошка аб'яў. Такія збудаванні ўзводзіліся калісь на вясковых аўтобусных прыпынках, але сумняваюся, ці тудою ездзілі пасажырскія аўтобусы. Мабыць — так мне здаецца — будан быў пабудаваны тамашняй моладдзю, калі яна яшчэ там была, і выконваў ён ролю такой самадзейнай святліцы, дзе можна было ў засені ад дажджу і ветру сустрэцца, пагутарыць, паспяваць, павесяліцца...

Каля сотні метраў далей стаяць насупраць сябе дзве хаты. У адной з іх, у мураванцы, жыла Ніна Такаюк, у мінулым амаль пастаянная лаўрэатка конкурсаў беларускай песні. З супрацьлеглай хаты, абноўленай на вясковую дачу, выйшаў у свет даўнейшы ніўскі карэспандэнт Мікалай Капчук. На панадворках побач абедзвюх хат ціха...

У Мікулічах паказваюцца пазалочаныя купалы рагачоўскай царквы. Але раней будынак былой школы, у якім яшчэ ў 1990-х гадах адбывалася навучанне. Зараз школьны панадворак шчыльна зарос высокай расліннасцю. Будынак, узведзены ў 1968 годзе, запушчаны, каля яго завіхаецца толькі прыродная стыхія. На дзвярах віднее невялікая шыльдачка з назвай фонду: „Fundacja Rogata".

Вікіпедыя: „Рагачы (па-польску: Rogacze, па-падляску: Rohačě) — вёска, разьмешчаная ў Падляскім ваяводзтве, Сямяціцкі павет, Мілейчыцкая гміна, за 10 кіламетраў ад мяжы зь Беларусьсю. Празь вёску працякае рака Нурчык. Вёска заснаваная ў 15 стагодзьдзі. Вёска — сядзіба праваслаўнага прыходу Нараджэньня Божай Маці. Царква з пачатку 19 стагодзьдзя, перанесеная ў Рагачы пасьля 1872 года. Прыход знаходзіцца на шляху пілігрымак вернікаў у Грабарку. У 1960-я гады намаганьнямі жыхароў у Рагачах збудаваная пачатковая школа, якая дзейнічала да 1990-ых гадоў. Цяпер будынак школы — сядзіба Фонду «Рагатая»".

Заходжу ў краму, у якой толькі прадавачка. Прабую размаўляць па-вясковаму, але яна трымаецца толькі гарадской мовы. Даведваюся, што купалы тамашняй царквы былі пазалочаны год ці два таму. А калі цікаўлюся, ці мая суразмоўніца мясцовая, яна адразу пераходзіць на сакавітую мясцовую гаворку, мяняючы і стаўленне да мяне на даволі даверлівае. Пытаю пра „рагаты" фонд і атрымліваю адказ, што гэта такі суб'ект, які ўзяў школу з мэтай адукацыйнай дзейнасці, галоўным чынам для навучання рукадзелля, на якую бярэ грошы, але нічога там не дзеецца, затое ў інтэрнэце дзейнасць тая вельмі дынамічная. І ўжо завадатарамі фонду цікавяцца адпаведныя органы...

І сапраўды, сайт фонду ў інтэрнэце вельмі сціплага дызайну, затое ўводзіны багатыя: „Fundacja „Rogata" powstała w 2008 roku. Naszą siedzibą jest budynek byłej szkoły podstawowej w Rogaczach w gminie Milejczyce w województwie podlaskim. Terenem działania cały świat. Za cel długofalowy naszego istnienia stawiamy sobie wyremontowanie opustoszałego obiektu, zamieniając go w przyszłości w siedzibę ośrodka artystyczno-ekologicznego. Chcielibyśmy w ten sposób m.in. zaktywizować lokalną społeczność. Póki co staramy się działać w obszarach naukowych, edukacyjnych i artystycznych na terenie całego kraju. Naszym celem w dłuższej perspektywie jest stworzenie silnego ośrodka edukacji artystycznej dla każdego. Organizujemy warsztaty, konferencje i szeroko pojęte imprezy kulturalne. Zależy nam na edukacji obywatelskiej i wspieraniu osób wykluczonych. Szczególnie jesteśmy zainteresowani dziedzictwem kulturalnym, historią oralną. Nasze podejście jest etnograficzne". Адрас фонду ў Рагачах, затое карэспандэнцыю трэба пасылаць на варшаўскі адрас. А якія warsztaty, konferencje i szeroko pojęte imprezy kulturalne ладзіць фонд na terenie całego kraju ды цэлага свету, даведацца немагчыма, бо „Witryna fundacji jest cały czas w trakcie tworzenia. Więcej informacji i zdjęć zaprezentujemy Państwu już wkrótce". Падаецца, што „фундацыя" не адно толькі рагатая, але яшчэ з хвастом і капытамі...

Крама ў Рагачах будавалася па-за Майсеневым абсягам, таму ў яе іншы, чым, напрыклад, у Дашах, дызайн. У ёй толькі адно памяшканне і, здавалася б, месца для „буфету" няма. Але хопіць выйсці крыху навонкі, каб улавіць неабходнае ў нашай мясцовай народнай культуры другое памяшканне — яно ў Рагачах пад адкрытым небам, у прыемненькім „кліматызаваным" антуражы, дзе прыемна падаграе сонейка і так жа прыемна прахалоджвае вецярок. І стол там ёсць, і лавы, і тара з разліўным, і мужчынская аператыўная кампанія.

Царква ў Рагачах не надта рагачоўская. А. Рыгор Сасна: „W Wielkim Poście 1872 r. cerkiew parafialna w Rogaczach spłonęła. Cudowna ikona ocalała. Ówczesny proboszcz, Bazyli Charłampowicz, zadecydował, by na święto Paschy ryzę z ikony św. Antoniego pozłocić. Cerkiewny starosta i parafianie sugerowali proboszczowi, by konserwacji dokonał po Wielkanocy, gdyż nikt w tak krótkim czasie nie zdoła wykonać zamówienia. Proboszcz jednak 4 kwietnia 1872 r. przekazał ikonę do pozłocenia. Następnego dnia cerkiew wraz z całym wyposażeniem spłonęła. Dzięki Opatrzności Bożej, ikona znalazła swoje miejsce w nowej cerkwi, zakupionej w Dubinach i przetransportowanej do Rogacz. W czasie bieżeństwa ikona wraz z wyposażeniem świątyni została wywieziona w głąb Rosji. W cerkwi rogackiej pozostała tylko ryza. Ikona do Rogacz już nie powróciła". А першая звестка пра рагачоўскую царкву маецца з 1610 года, значыць мясцовы прыход адносна малодшы, напрыклад, за суседні тысячагадовы Жэрчыцкі...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




Надпіс на дашоўскім крыжы



Царква ў Рагачах

# Нашы ліцэі і мы (4)



Як бачым, змяніліся памаленьку ўмовы жыцця нашага тутэйшага беларускага народа — і мы змяніліся. Нашаму сучаснаму маладому пакаленню, напрыклад, нехарактэрныя ўжо пачуццё нясмеласці, няўпэўненасці, прыніжанасці, непаўнацэннасці, адным словам тое, чым так моцна хварэлі нашыя папярэднія пакаленні. Яны апранутыя цяпер прыгожа, у іх модныя прычоскі, „wypasione” тэлефончыкі, добрая пальшчызна і нейкае там „kieszonkowe” маецца штодзень, хаця іх бацькам і не пераліваецца. Многія з іх ужо аб'ездзілі сваю краіну ды і за граніцай часценька бываюць. А хто не бывае ў свеце, можа аглядаць яго дома, выгадна седзячы на канапе. Тым больш, што англійскую мову яны вывучаюць проста ад прадшколля. Закончыўшы сярэднюю адукацыю, не так ужо складана дастацца на вучэльню. Пакуль што, здаецца, іх веравызнанне ці правінцыйнае паходжанне не перашкаджаюць у гэтым. Горшая справа з атрыманнем добрай працы на месцы, але гэта, здаецца, справа часовая, звязаная з крызісам.

Мне здаецца, што ў нас няма таксама такой велізарнай „прорвы” паміж цэнтрам і правінцыяй, паміж горадам і вёскай, як, напрыклад, у Расіі. Там будавалі, будавалі бясклясавае грамадства — і дабудаваліся... Аж гадка глядзець на даволі частыя праграмы расійскага тэлебачання, у якіх растлусцеўшыя матроны адкрыта і з агідай гавораць пра сваю правінцыю. Баяцца, каб хаця не парадніцца праз свайго сынка ці дачаньку з гэтай правінцыяй, якой у галаве, паводле іх, толькі адно — завалодаць іх маскоўскай, піцерскай ці іншай гарадской „жилплощадью”...

У нас, мне здаецца, правінцыя ў большай павазе. Яна прыцягвае сваёй таямнічасцю, рамантыкай, і экалогіяй. На нашых штогадовых беларускіх алімпіядах тэме Малой айчыны адводзіцца многа месца. І найлепей спраўляецца з гэтай тэмай наша моладзь. Яны з любоўю, гонарам і знаннем справы расказваюць пра мясцовую прыроду, культуру, рэлігію, традыцыі. Абавязкова пахваляцца, што спяваюць у царкоўным ці свецкім хоры, ці належаць да іншага калектыву. Ахвотна і з уменнем адспяваюць царкоўную ці свецкую песню, бо выступаць наша сучасная моладзь любіць і ўмее. Расказваючы пра свае жыццёвыя планы амаль усе гавораць, што закончыўшы свае навукі, хацелі б вярнуцца і працаваць сярод сваіх. А сустракаючыся з былымі нашымі ліцэістамі, якія някепска ўладкаваліся дзесьці там у Польшчы ці за граніцай, часта можна пачуць, што дажываць сваё жыццё хацелі б тут. Мы калісьці такімі адкрытымі і такімі свядомымі, здаецца, не былі...

Змянілася таксама і старэйшае пакаленне — бацькі гэтай моладзі. У гэтым пакаленні змяніліся ў асноўным адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. І адносіны паміж імі і ўсялякага роду начальствам, чыноўніцтвам у сэнсе нізкапаклонства перад імі. Народ перастаў верыць у тое, што „начальство лучше знает”.

Я вучыўся ў пяцідзесятыя гады мінулага стагоддзя, а настаўніцкую працу распачаў у шасцідзесятыя гады і даскапала памятаю сваіх першых вучняў, іх бацькоў, адносіны паміж імі і намі, настаўнікамі. Гэтыя адносіны былі крыху іншымі, як цяпер.

Тагачасная наша ліцэйская моладзь была добрая, працавітая, „карная”. І добрыя, дысцыпліпаваныя былі іх бацькі, з яшчэ дзедаўскімі выхаваўчымі метадамі. Яны ўмелі пакорліва выслухаць нас, настаўнікаў, насякнутых ужо новымі выхаваўча-педагагічнымі метадамі і назойліва прапаведаўшых іх — і згадзіцца з імі. Але, канешне, больш верылі ў сваю педагогіку. Яны не баяліся сваіх дзяцей, як многія цяперашнія бацькі. І на розныя адмоўныя справы сваіх дзяцей рэагавалі імпульсіўна. Часта надта імпульсіўна, з фізічным пакараннем уключна, чаго сучасныя бацькі сабе не дазваляюць...

Я любіў сустракацца з бацькамі сваіх вучняў, нават на вуліцы. Падыходзіць, бывала, на вуліцы мужчына ці кабеціна і, нават не называючы свайго прозвішча, пытае: як там вучыцца мой Жоржык ці Гандзя? Атрымаўшы нейкую інфармацыю, вельмі міла і з паклонам дзякуюць, як бы я зрабіў ім вялікую ласку. Некаторыя з іх нават дадавалі: калі штосьці набедакурыць у школе, то не цырымонцеся з (ім) ці (ёю) і паругайце, і пакарайце — мы будзем толькі ўдзячны вам. Ім толькі дазволь, то і на галаву вам узлезуць...

Ці штосьці падобнае можам пачуць ад бацькоў цяперашніх вучняў? Думаю, не! І можа добра, што немагчыма пачуць такое цяпер, бо не дай Божа падслухаюць адпаведныя службы ці паліцыя. Тады напэўна адбяруць ад бацькоў дзетак — і пачнуць самі выхоўваць іх, іх бацькоў і школу. Такое ўжо права цяпер...

Ці варта вучыцца ў беларускіх ліцэях, у якіх і цяжэй вучыцца, і больш складана здаць экзамены на атэстат сталасці? Варта, нават небеларусам. Маладыя людзі, дадаткова пазнаўшыя беларускую мову, літаратуру, гісторыю, унутрана напэўна багацейшыя ад сваіх равеснікаў, закончыўшых польскія школы. Дадатковыя веды будуць напэўна дапаможнымі ў іх жыцці і напэўна не толькі не зашкодзяць і „пальшчызне”, а наадварот, узбагацяць і яе, і тым самым польскую культуру. Красамоўных прыкладаў на гэта ў польскай культуры ёсць мноства...

Без лішняй скромнасці можам сказаць, што нашы беларускія ліцэі былі кузнямі нашай інтэлігенцыі. Яны мелі таксама станоўчы ўплыў і на тых, хто іх не канчаў і ніколі не вучыўся ў іх. Чуючы пра беларускія школы, кожны мусіў задумацца над тым, хто ён і што ёсць такія людзі, якія не хочуць забывацца і выракацца свайго. Мелі яны таксама выхаваўчы ўплыў і на польскае, не надта талерантнае, грамадства. Звярталі менавіта ўвагу на тое, што ў паўночна-ўсходняй Польшчы жывуць беларусы, якія і надалей хочуць быць беларусамі і праваслаўнымі...

**Васіль САКОЎСКІ**

34MAG.NET

http://34mag.net

Знаёмства з беларускай моладзевай культурай немагчыма без азнаямлення з творамі, якія ствараюцца той самай беларускай моладдзю ў першую чаргу ўласна для сябе. Можна доўга разважаць — добрая сённяшняя моладзь ці дрэнная, але калі не паспрабаваць зазірнуць у глыб яе памкненняў і жаданняў, якія па сутнасці і раскрываюць культурай, то так і застанешся ў неразуменні чым жа жыве цяперашняе прасунутае маладое беларускае пакаленне.

Сайт **http://34mag.net**, што адносна нядаўна з'явіўся ў інтэрнэце, уяўляе сабой моладзевы інтэрнэт-часопіс, які кранае практычна ўсё, што цікавіць людзей да трыццаці гадоў. Прычым галоўная яго старонка настолькі стракатая, што не адразу разумееш, куды трапіў. Тут і даволі дзіўныя выйсці на рубрыкі, якія насамрэч з'яўляюцца асобнымі праектамі, і разнастайныя авангардысцкія малюнкі, што аздабляюць тэксты, і выявы нейкіх людзей, якія, па ўсім відаць, прызнаныя ў стваральнікаў сайта аўтарытэты, бо маюць права выказваць там свае думкі ў асобных артыкулах.

Уладальнікі сайта не стамляюць наведвальнікаў доўгімі пошукамі інфармацыі аб саміх сабе. І побач з назвай, якая аналагічная інтэрнэт-адрасу, яны размясцілі выйсце на старонку „Пра нас”. „34mag.net — моладзевы часопіс пра актуальнае і цікавае ў Беларусі і свеце: трэнды, падзеі, людзі і з'явы, якія нас бударажаць. Крыніца інфармацыі ды натхнення для чытачоў. Нашыя каштоўнасці — свабода, творчасць і сяброўства. Мы ўвесь час у пошуку людзей, праектаў і абставін, якія робяць жыццё больш яркім і цікавым. Мы называем рэчы сваімі імёнамі. Мы цэнім у людзях талент, актыўнасць, гумар і непадабенства да іншых”, — кажуць уладальнікі сайта-часопіса, якія чамусьці не пажадалі хоць нейкім чынам прадставіцца. Абмінуўшы гэтае правіла добрага тону, яны тым не менш не забыліся запрасіць да супрацоўніцтва тых, хто лічыць, што яго заўвага або ідэя дапаможа ім зрабіць часопіс лепшым; хоча рабіць часопіс разам з імі; лічыць, што ў яго ёсць кніга, альбом, фільм або фотасэт, якія падыходзяць у «Пяршак» (асобны праект часопіса — заўв. аўтара); робіць івэнт і хоча прыслаць ім афішу.

Варта адзначыць, што акрамя выйсцяў на асобныя рубрыкі-праекты 34mag.net, што месцяцца каля назвы сайта, крыху ніжэй за фотапрэзентацыяй асобных артыкулаў можна ўбачыць выйсце на „Рубрыкі”. Калі клікнуць туды мышкай, то перад намі адкрыецца нечакана вялікая колькасць іншых старонак, прыкладны змест большасці якіх пры прачытанні толькі загалоўка ўсвядоміць немагчыма. „Пахмельныя міксы”, „Вынікі”, „Instagrammy”, „Шыльда”, „Рэдкалегія” і іншыя прываблівають сваёй таямнічасцю і нібыта заклікаюць бліжэй пазнаёміцца са зместам.

Нягледзячы на тое, што на сайце па-сапраўднаму ўсё вельмі цікава, усё ж хочацца звярнуць увагу на адмысловыя праекты інтэрнэт-часопіса — „Афішу”, „Rovar” і „Пяршак”. „Афіша” распавядае пра падзеі культурніцкага накірунку, што маюць адбыцца ў Мінску ў бліжэйшыя тыдні.

„Rovar” імкнецца стаць інтэрактыўнай картай раварыстаў Беларусі, дзе сабраны ўсе веласпоты кожнага буйнога беларускага горада ў адным месцы. Праўда, пакуль гэтыя веласпоты не выходзяць за тэрыторыю Мінска.

„Пяршак” з'яўляецца „першым беларускім анлайн-мультылэйблам”, дзе, згодна інфармацыі аб ім, выдаюцца музыка і кнігі, прэзентуюцца фільмы, кліпы і відэапраекты, арганізуюцца віртуальныя фотавыставы і мастацкія галерэі, публікуюцца мультымедыйныя праекты.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



### Камісар Слуцкага паўстання

# 75 гадоў з дня смерці Паўла Жаўрыда

Беларускі дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання Павал Жаўрыд нарадзіўся 13 чэрвеня 1889 г. у вёсцы Цецяроўка на Случчыне.

У 1909 г. скончыў Слуцкую гімназію, далей вучыўся на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. У 1916 г. быў мабілізаваны ў войска. У 1917 г. скончыў Віленскую ваенную вучэльню, якая дзейнічала ў эвакуацыі ў Палтаве. Быў накіраваны ў Туркестанскую ваенную акругу, потым на Румынскі фронт, дзе быў абраны старшынём палкавога камітэта.

Як прадстаўнік быў дэлегаваны беларусамі-вайскоўцамі на І Усебеларускі з'езд у 1917 г. Працаваў юрысконсультам у Слуцку ў зямельным аддзеле. Летам 1919 г. арыштаваны бальшавіцкай ЧК, абвінавачаны ў дапамозе расійскаму беламу генералу Дзянікіну. Вызвалены, у лістападзе 1919 г. вярнуўся ў Слуцк. У канцы 1920 г. Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны, уваходзіў у склад Беларускай рады Случчыны. Стаў адным з кіраўнікоў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстання 1920 г. З 1921 г. быў у Вільні, уваходзіў у Беларускі нацыянальны камітэт, Беларускую школьную раду, потым вярнуўся на Случчыну. Быў жанаты, меў траіх дзяцей.

У 1923-1930 гг. працаваў на розных гаспадарчых пасадах у Мінску і Мар'інай Горцы, пасля ў Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, Інбелкульце, рэдакцыі газеты «Звязда» (у час арышту быў яе стыль-рэдактарам). У час масавых рэпрэсій арыштаваны ў ліпені 1930 г. па справе так званага «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 г. засуджаны за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Быў вызвалены 21 чэрвеня1934 г. Пасля выхаду з лагера жыў у ссылцы ў Сарапуле Удмурцкай АССР. Зноў арыштаваны ў 1937 г. і асуджаны на 10 гадоў лагераў, верагодна этапаваны ў Паўночна-чыгуначны канцлагер НКУС Комі АССР.

Павал Жаўрыд памёр у савецкім канцлагеры ў пасёлку Княж-Пагост (Комі АССР) 14 траўня 1939 г. Калі прыйшоў час выкрывання злачынстваў савецкай сістэмы, быў рэабілітаваны па першым прысудзе ў Беларусі ў 1988 г., па другім — Кіраўскім абласным судом Расіі. У сённяшняй Беларусі памяць пра гэтага героя ніяк не ўшанавана.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (10)

Ініцыятарам пабудовы рускай лазні быў камандзір Генадзій Казарэз. Пры канцы кантрактнай службы ў Польшчы яго павысілі ў чыне да звання маёра. Каб пакінуць па сабе добры ўспамін, Генадзій рашыў пахадайнічаць за пабудовай «рускай бані». У жылым блёку, дзе кватараваўся Эдзік Драбышэўскі, у падвале змяшчаліся пральні з сушыльняй для бялізны. Кожная лесвічная клетка карысталася такой дабрадзейнасцю. У сярэдняй клетцы, дзе пражываў Янка Шабалоўскі з бацькамі, кватаравалася найбольш сем'яў. Дзеля таго ў іхнім распараджэнні былі дзве пральні і дзве сушыльні. Кватаранты рашыліся іх разбурыць і збудаваць у гэтым месцы купальны басейн з лазняй. Выкананне задачы даручана Раёну чыгуначных будынкаў. Маёр Казарэз, праз пасрэдніцтва савецкага пасольства ў Варшаве пахадайнічаў за адмысловай драўнінай для абліцоўкі. Неўзабаве вагон з незвычайным грузам з СССР паступіў у Чаромху. З дасланых бярвён вырабілі шыкарныя драніцы. У двух памяшканнях пральні разбурылі прасценак. У адным прасторным пакоі збудавалі басейн. Купальня памерамі 2,5 x 3 x 1,5 м была збудавана з «пустакоў». Сярэдняя частка была абліцаваная глазурнай пліткай. Унутраныя сцены памяшкання былі абшаляваныя драніцамі з чырвонага дрэва. На супрацьлеглым баку калідора, дзе змяшчаліся сушыльні, у адным памяшканні збудавалі лазню, у суседнім — гасцінны пакой. У канцы калідора змяшчалася прыбіральня.

Фота з архіва аўтара

Справа: Капітан Генадзій Казарэз, аўтар і Надзежда Купрыянаўна Чупілка-Валенюк на могільніку савецкіх салдат у Мілейчычах – 9 мая 1978 года

Печка ў лазні награвалася электрычным токам. Мела яна ўмураваныя ўнутры моцныя вагонныя спіралі. Верхняя частка печкі пакрытая была каменем. З боку быў замацаваны тэрмометр. Калі тэмпература сягала 120-130 градусаў, печку абястачвалі і палівалі вадой. Тады лазня запаўнялася густой занавесай пары. Купальнікі закрывалі дзверы лазні і падымаліся на прыспасобленыя лаўкі, якія ўзвышаліся побач печкі. Разагравалі цела парай, хвастаючы плечы бярозавым венікам. Аднаразова саўнай магло пакарыстацца пяць чалавек. Звычайна заходзіла трох. Лазняй карысталіся таксама чарамшане — кампаньёны ЗКУшнікаў. Ініцыятарам і заадно арганізатарам рознага віду «імпрэз» у гасцінным пакоі, які межаваў з саўнай, быў Янка Шабалоўскі. Яго сардэчны калега Мірраслаў Кусачук, які ў вольны час заходзіў да Шабалоўскага, быў музыкантам. Хлопцы арганізавалі выпіўку. Спачатку разагравалі цела ў душнай саўне, пасля арганізавалі застолле ў гасцінным пакоі, пры гармоніку, разумеецца, з песнямі. Да гэтай кампаніі далучаліся ЗКУшнікі. Вясёлая кампанія разыходзілася каля поўначы...

Пасля закончанага кантракту, а было гэта на зломе 1985/1986 гадоў, маёр Генадзій Казарэз развітаўся з Чаромхай. Разам з ім закончыў працу шафёр Валерка. Абавязкі камандзіра ЗКУ прыняў падпалкоўнік Аляксандар Шчэрбіна, а месца Валеркі заняў шафёр Сашка Кірайкін. Але аб гэтым у наступнай частцы.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

# „Цаглінкі" і „Каліна" — найлепшыя

4 мая гэтага года ад гадзіны 10 у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) плылі прыгожыя мелодыі. Луналі яны і па вуліцы. Усюды чуліся звонкія прыгожыя галасы. На раённы агляд прыехалі вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы сеніёраў (людзей г.зв. трэцяга веку) з Гайнаўскага, Беластоцкага і Бельскага паветаў.

На сцэне выступілі „Асеннія ружы" з Боцькаў, „Верасы" з Чыжоў, „Асенні ліст" з Гарадка, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Малінкі" з Маліннік, „Нараўчанкі" з Нараўкі, „Арляне" з Орлі і „Каліна" з Залук. Усе былі апрануты ў народныя касцюмы. Спявалі беларускія (іх найбольш), польскія, рускія і ўкраінскія песні.

„Цаглінкі"

„Каліна"

На ваяводскі агляд, які адбудзецца 26 мая г.г. у Клубе „Фама" ў Беластоку, журы выбрала два найлепшыя калектывы: „Цаглінкі" са Старога Ляўкова (Нараўчанская гміна) і „Каліну" з Залук (Гарадоцкая гміна). Гэтыя калектывы працуюць пад кіраўніцтвам вопытных музычных інструктараў Мікалая Мяжэннага і Віктара Леанкевіча. Удзельнічаюць яны ў конкурсах і паспяхова выступаюць на канцэртах.

Падчас перапынку ў выступленнях калектываў можна было агледзець выстаўку прац таленавітых рукадзельнікаў Нараўчанскай гміны. Адкрылі яе ў прыгожай святліцы па-суседску з ГАК.

Мерапрыемства арганізавалі Ваяводскае праўленне Польскага саюза пенсіянераў у Беластоку і раённае праўленне гэтай жа арганізацыі ў Нараўцы, Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ў Нараўцы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

1. хвароба скуры з дробным свярбячым сыпам, 2. невялікая чыгуначная машына з ручным або механічным прыводам, 3. майстар па вырабе бочак, 4. грашовая адзінка Італіі, 5. язык агню над гаручым прадметам, 6. установка для абагравання хаты, 7. частка рачной даліны, якая затапляецца ў час разліву, 8. судовая справа, 9. Оскар, англійскі пісьменнік (1854-1900), 10. гістарычная вёска ў Ашмянскім раёне з Гальшанскім замкам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — чэшская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | | |
| | 2 | | 3 | | | 4 | | | | 5 |
| | | | | | | 6 | | | | 7 |
| | | 8 | | | | | | | | |
| | | | 9 | 10 | | | | | | |

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Аграном, ніва, Янцзы, сеча, тэрор, сі, нарматыў, ёлка, Шыва, Аўстрыя.

Рашэнне: **Віно мяняе сакрэты ў словы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",** BANK PEKAO S.A. O/Białystok 38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.


# 18.05 — 24.05

**(22.03. — 20.04.)** Добры час для пабудовы планаў на будучыню: у далейшым яны абавязкова здзейсняцца. Адкрый усе вокны і дзверы для новых падзей і магчымасцей і будзь упэўнены, што яны абавязкова да цябе прыйдуць. Паспяховым апынецца зварот у органы ўлады. Зможаш мець справу з вялікімі ўстановамі або дзяржаўнымі агенцтвамі. У любым выпадку паспрабуй знайсці выгаду ва ўсіх справах, якімі будзеш займацца. З 20.05. усе твае справы рушаць уперад.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымыя нядобрасумленныя ўчынкі тваіх калег па бізнесе. З катэгорыі роўных партнёраў паспрабуюць цябе перамясціць у разрад залежных і падначаленых. Магчыма, хтосьці будзе імкнуцца неяк абмежаваць тваю свабоду, нейкім чынам на цябе паўплываць і прымусіць да стратных для цябе ўчынкаў. Будзь гатовы сказаць «не».

**(22.05. — 22.06.)** Згодна зорнаму прагнозу, у адзін з бліжэйшых дзён (да сярэдзіны тыдня) для цябе будуць прыняты сапраўды лёсавызначальныя рашэнні, якія вызначаць тваё жыццё на бліжэйшыя месяцы і нават на гады. Дапамінайся за сваё. Не выдавай лішніх грошай да 20.05.

**(23.06. — 23.07.)** Пазбягай вялікага фізічнага напружання, не прабуй рабіць больш, чым можаш, і гаварыць тое, чаго не ведаеш. Не застанешся без падтрымкі зверху, калі возьмешся за сур'ёзнае навучанне ці паспрабуеш зладзіць сваё асабістае жыццё. Каб заваяваць чыё-небудзь каханне, пасадзі любчык або кроп, прамаўляючы пры гэтым: «Ад зямлі да травы, ад травы да мяне». Калі расліна саспее, сарві яе ў пятніцу, кажучы пры гэтым: «Як гэтаму кусту болей ні расці, ні перарасці, так і ... (імя) да мяне душой і целам навекі прырасці». Выкарыстоўвай гэтыя спецыі ў стравах прапанаваных свайму выбранніку.

**(24.07. — 23.08.)** Пачуцці будуць пераважаць над логікай, і гэта становіцца прычынай тваіх промахаў. Але ў цябе ёсць магчымасць і сілы супрацьстаяць негатыўным момантам. Адкінь раздражненасць і паспрабуй глыбей паглыбіцца ў прапановы, якія паступаюць ад вашых знаёмых, сваякоў або калег. У пачатку тыдня магчымы напад сабакі ці якой-небудзь дзікай жывёлы.

**(24.08. — 23.09.)** Магчыма, трэба будзе табе здзейсніць невялікае падарожжа: з'ездзіць за горад, наведаць знаёмых, якія жывуць у суседнім горадзе, або адправіцца ў службовую камандзіроўку. Выберыся на свежае паветра і прысвяці час свайму здароўю.

**(24.09. — 23.10.)** Паспрабуй пацікавіцца прапановамі калег: калі прымеш іх бок, то прынясе табе гэта выгаду. У панядзелак верагодныя сустрэчы з уплывовымі людзьмі. Любыя грамадскія кантакты могуць стаць каштоўнымі для будучых дзелавых аперацый.

**(24.10. — 22.11.)** У бліжэйшы час грошы палюбяць цябе, калі толькі ты сам будзеш да іх неабыякавы. У светлую месячную ноч налі ў чорную глыбокую талерку чыстую ваду і кінь у яе сярэбраную манету. Пастаў талерку так, каб месяц свяціў проста ў ваду і ствараў на ёй блікі. Трымай рукі над талеркай і павольна перамяшчай далоні над вадой, «збіраючы» месячнае срэбра. Адчуй, як блікі кранаюць твае далоні, і запамятай адчуванне гэтага дотыку. Скончыўшы рытуал, вылі ваду на зямлю, а манету абатры і насі з сабой.

**(23.11. — 22.12.)** Непрадбачаныя падзеі могуць на гэтым тыдні прывесці да сур'ёзных канфліктаў дома. Калі хтосьці затаіў супраць цябе камень за пазухай, то зараз ён яго абавязкова дастане. Праяві дыпламатычнасць, каб дамагчыся ажыццяўлення сваіх даўніх жаданняў і планаў.

**(23.12. — 20.01.)** Тваё мінулае, нейкія даўно забытыя табою падзеі зноў нагадаюць табе пра сябе. Магчымыя сустрэчы з даўнімі знаёмымі. Не грэбуй сваімі абавязацельствамі: тое, што абяцаў, выканай. У канцы тыдня неабходна табе будзе нешта купіць для абнаўлення свайго хатняга інтэр'еру. Не адчыняй у панядзелак рахункаў у банках, не ўкладай грошай у якія-небудзь мерапрыемствы і не займайся абменам валюты.

**(21.01. — 19.02.)** Чакае цябе незабыўны тыдзень, багаты самымі рознымі запамінальнымі падзеямі: ад нечаканых набыткаў да сур'ёзных памылак і страт. Усе твае сваякі, а таксама цяперашнія і даўнейшыя сябры і знаёмыя вырашаць нагадаць табе пра сябе. Так што рыхтуйся да бясконцых тэлефонных званкоў, нечаканых гасцей і выпадковых сустрэч.

**(20.02. — 21.03.)** Не абяцай большага, чым можаш зрабіць, каб потым не атрымаць абвінавачанняў у падмане і не пашкодзіць свайму фінансаваму і сацыяльнаму становішчу. Калі гэта магчыма, перакладзі ўсе свае абавязацельствы на чужыя плечы. Закрый дзверы перад тымі, хто спрабуе адабраць у цябе каштоўны час або скарыстацца тваёй прыхільнасцю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Сейбіт народнай культуры

**Дакументальны фільм «Сейбіт», які паўстаў па заказе тэлеканала «Белсат», гэта навейшая, вельмі ўдалая стужка беларускага дакументаліста Юрыя Каліны. Фільм паказвае дзейнасць і працу на ніве беларускай народнай культуры фалькларыста Дарафея Фіёніка, старшыні аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах». Прэм'ерны паказ фільма «Сейбіт» адбыўся 4 мая ў Бельску, на радзіме Дарафея Фіёніка. Другі паказ адбыўся на наступны дзень у Беластоку.**

— У фільме «Сейбіт» кожны можа нешта знайсці для сябе. Я на падставе фільма магу глянуць на сябе інакш, вачыма рэжысёра, які ўклаў многа сэрца, энергіі і працы пры кінастужцы. Яна для мяне — матэрыял для глыбокіх роздумаў, што направіць або памяняць у сваёй дзейнасці, — заявіў Дарафей Фіёнік, які падзякаваў Юрыю Каліну за плённае супрацоўніцтва, у выніку якога з'явіўся новы фільм.

Герой фільма Дарафей Фіёнік паказаны як чалавек, які ўдала рэалізуе свае мары, святкуе ў згодзе з прыродай і разам з вясковымі людзьмі. Ад многіх гадоў вядзе ён дзейнасць Музея малой айчыны ў Студзіводах, кіруе царкоўным хорам у Відаве ў якасці псаломшчыка. Важным Дарафею з'яўляецца сямейнае жыццё, якое таксама кружыцца вакол праваслаўных святаў і фальклорных абрадаў. З дапамогай жонкі Альжбеты і бацькоў навучыў ён сваіх дзетак размаўляць на гаворцы падляшскіх беларусаў. Аб гэтым ведаў Юры Каліна, ствараючы сцэнарый фільма.

— Я героя фільма ведаў здаўна і доўга думаў, які загаловак даць стужцы. Калі я ўспомніў евангельскую прытчу пра сейбіта, які сее збожжа і чакае ўраджаю, тады ведаў што фільм будзе пра «сейбіта», якога я ведаў практычна з маленства. Дарафей Фіёнік сее не толькі жыта, але таксама зерне беларускай народнай культуры на Падляшшы, — сказаў перад прэм'ерай фільма Юры Каліна, рэжысёр дакументальных фільмаў, публіцыст у аддзяленні Польскага тэлебачання ў Беластоку, кіраўнік філіяла рэдакцыі тэлеканала «Белсат». Гледачам вядомы ён таксама як аўтар дакументальнага фільма «Архімандрыт» пра архімандрыта Гаўрыіла, заснавальніка праваслаўнага скіта на паўвостраве Кудак, які таксама прыбыў на прэзэнтацыю фільма.

— Калі едзем праз вёскі Падляшша, то ў многіх з іх бачым старэнькіх людзей, бо маладыя павыязджалі ў пошуках працы. Важна, каб затрымаць маладых на нашай зямлі і паявлічыць наш матэрыяльны і духоўны здабытак, каб мы шанавалі сваю бацькаўшчыну і не прадавалі сваёй зямлі. У фільме важна тое, што яго герой перадае свайму сыну багацце нашай культуры, традыцыі і духоўнасці, якія мы, беларусы, перадавалі з пакалення ў пакаленне. Народ, які не захоўвае сваёй культуры і традыцыі, гіне. Жадаю, каб фільм «Сейбіт» сеяў зярняты нашай культуры і традыцыі на вільготную зямлю і каб далі яны плён у сто разоў пабольшаны, — заявіў архімандрыт Гаўрыіл.

Фільмам «Сейбіт» захоплены быў бельскі віцэ-староста Пётр Божка. Некаторыя моманты ў стужцы выклікалі ў публікі асаблівае захапленне, а іншыя спачуванне, што трымала гледачоў у напружанасці.

— Фільм «Сейбіт» адмыслова паказвае тое, што робіць Дарафей Фіёнік. Ён ладзіць фальклорныя фестывалі, заснаваў калектыў «Жэмэрва», збірае і публікуе гістарычныя матэрыялы пра Бельск і наваколле. Аб гэтым могуць даведацца гледачы фільма, — сказаў былы шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук.

Фільм «Сейбіт» упершыню быў паказаны ў вялікую суботу перад Вялікаднем на тэлеканале «Белсат», якога дырэктар Агнешка Рамашэўская-Гузы прысутнічала



Пасля прэзэнтацыі фільма «Сейбіт» перад публікай выступілі Юры Каліна (справа), Дарафей Фіёнік і яго жонка Альжбета



Беларускі фальклор запрэзентавала «Жэмэрва» (музычны кіраўнік Анна Фіёнік)



ў бельскай прэм'еры. На паказ стужкі прыбыла таксама паказаная ў фільме ўся сям'я Фіёнікаў. Пад асаблівым уражаннем ад фільма застаецца Анна Фіёнік, сястра Дарафея і музычны кіраўнік студзіводскага калектыва «Жэмэрва». Падчас мерапрыемства побач «Жэмэрвы» выступілі калектывы з Беларусі, якія раней вадзілі па нашых вёсках карагоды, славілі Хрыстовае Уваскрасенне і спявалі фальклорныя песні.

— Інспірацыяй для фільма была размова з сынам героя Ільёй, які ўсвядоміў мне, што ўся сям'я Фіёнікаў жыве згодна з даўнімі традыцыямі і паводле царкоўнага календара, — заявіў Юры Каліна. Чатырохгадовы Ілья патлумачыў рэжысёру, што яго малодшую сястру назвалі імем Таіса, бо нарадзілася яна ў дзень святой Таісы.

Падляшша і Палессе даследуе Студзіводскі музей Дарафея Фіёніка і яго дзейнасць займае цэнтральнае месца ў кінастужцы. У фільме вельмі важныя два моманты: ручная сяўба збожжа і яго малацьба цэпамі ў выкананні Дарафея Фіёніка і яго старэйшага сына Максіма. У фільме паказаны земляробчыя абрады. Пачатак фільма складае «куцця» ў сям'і Фіёнікаў, са снапом жыта пад іконай у святым кутку. У стужцы зняты Калядаванне на Хрышчэнне Гасподняе ў Войшках, з удзелам «Жэмэрвы» і калектываў з Беларусі, ды спатканне з жыхарамі Гусакоў з нагоды выхаду кампакт-дыска. Вялікае ўражанне робіць абыход поля Веры Нічыпарук з Малліннік падчас Юр'еўскага абраду. Айцец Рыгор Сасна прымае ў сваім Рыбалаўскім прыходзе гасцей з Беларусі і Падляшша і расказвае пра адміранне нашых вёсак. У фільме госці з-за мяжы наведваюць разьбяра Уладзіміра Навумюка ў Канюках і размаўляюць аб сувязях паміж беларусамі па абодвух баках мяжы. Жніво на полі Дарафея Фіёніка адбываецца з удзелам студзіводскіх дзяўчаў, спявачак «Малінак» з Маліннік, «Падляшанак» з Гарадзіска і жнеек з Беларусі. Вяселле знята ў Беларусі з удзелам сяброў Студзіводскага музея і «Жэмэрвы». Там запісана была размова са старэнькай жанчынай, якая спявае даўнія песні, і старэйшым сужонствам. Старэйшы мужчына спявае песні сваёй маладосці, а ягоная жонка расказвае пра мужаву нявернасць. Гэты момант наймацней будуе напружанасць у фільме, паколькі паказвае цярпенне і сямейныя няшчасці. Святкаванне 100-годдзя Раманоўкі — вёскі, у якой жылі продкі Дарафея Фіёніка і жывуць яго сямейнікі, з'яўляецца ўступам да паказання ў фільме гістарычнай дзейнасці Дарафея Фіёніка і Студзіводскага музея ды супрацоўніцтва з моладдзю Бельскага белліцэя. Фільм канчаецца сяўбой, ад якой пачыналася дакументальная стужка. Важным момантам у фільме з'яўляецца сімвалічная ліквідацыя мяжы паміж Польшчай і Беларуссю, калі на вяселле ў Беларусь едзе малады з Падляшша.

— Я рады, што не раблю фільмаў сабе, толькі людзям. Калі некалькі соцень асоб прыйшло паглядзець фільм «Сейбіт», абазначае гэта, што такія фільмы патрэбныя, — заявіў Юры Каліна.

Дырэктар Бельскага дома культуры Малгажата Біль-Ярузэльская, якая вяла мерапрыемства, назвала фільм «Сейбіт» важным для культуры Беларусі і Польшчы. На прэм'ерным паказе прысутнічалі людзі культуры і асветы, самаўрадаўцы і прадстаўнікі іншых асяроддзяў. Рэжысёр Юры Каліна звярнуў увагу на патрэбу паляпшэння ўмоў дзейнасці Бельскага дома культуры і будовы вялікай глядзельнай залы. Прапанову падтрымаў архімандрыт Гаўрыіл. Дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузэльская сказала, што разлічвае на будову цэнтра бельскай культуры на працягу пяці гадоў.

Дарафей Фіёнік — даследчык і прапагандыст беларускага фальклору на Падляшшы — апошнім часам становіцца штораз больш вядомым фалькларыстам на Палессі. Яго дзейнасць і працу Студзіводскага музея ўдала паказвае дакументальны фільм «Сейбіт». Айцец Гаўрыіл пажадаў, каб новая стужка здабыла яшчэ больш узнагарод на фестывалях, чым дакументальны фільм «Архімандрыт». Жадаем поспехаў Дарафею Фіёніку і Юрыю Каліну.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960